*даклаў пра сваю знаходку маёру. Пачалі шукаць уладальніка фуры, але ён знік. Яўрэй, гаспадар заезнага двара, на допыце паказаў, што перад нашым прыходам да яго пакарміць коней заехаў невядомы спадар у шэрым сукмане і высокіх ботах. Распрогшы коней, ён увайшоў у залу і запатрабаваў сабе ячню, а тут з'явіліся «панове» з войскам. Ён, гаспадар, замітусіўся і не заўважыў, калі і куды дзяваўся ягоны госць. У возе было больш за 200 стрэльбаў, некалькі дзясяткаў шабель, багнетаў, шашак і пісталетаў рознага калібру. Далі ведаць мясцовай паліцыі, але пан у сукмане так і не быў знойдзены. Было жаданне перадаць знаходку бургамістру мястэчка, але потым агульнай радай разважылі, што такім шляхам зброя зноў патрапіць да будучых паўстанцаў, і вырашылі ўзяць фуру з коньмі з сабой, для прад'яўлення начальству вышэй»*[183]. Як бачым, Лідскі паўстанцкі камітэт таксама рыхтаваўся да справы.

Закончу цытаванне цікавых, але блытаных і вельмі «паімперску» ангажаваных мемуараў ваеннага лекара І.В. Любарскага двума эпізодамі аднадзённага побыту яго батальёна ў Гародні, з апісанымі ніжэй адносінамі да сабе рускія афіцэры пачалі сутыкацца ў той час паўсюдна. «*У Гародні ... наша афіцэрства валам паваліла ў адну немудрагелістую карчму – хто паабедаць, хто пагуляць у більярд, а хто проста папацягацца за дачкой карчмаркі, прыгожай паненкай, якая стаяла за прылаўкам, распараджалася гарэлкай і закускамі і перадавала замовы гасцей прыслузе. Афіцэрства рассыпалася на польскай мове ў ласках, на якія какетлівая дзяўчына адказвала направа і налева з павабнай добразычлівасцю. Адзін толькі бязвусы прапаршчык, нядаўна выпушчаны з корпуса, не мог прымаць удзелу ў вясёлых гутарках, таму што зусім не ведаў папольску. Ён сціпла падышоў да паненкі і сказаў, каб яму падалі абед, але тая не адказала яму звычайным: «У тэн момант, пане». Прачакаўшы беспаспяхова з паўгадзіны, афіцэрык ізноў падыходзіць да панны з гэтай жа замовай,*

[183] Любарский И. В. В мятежном крае. (Из воспоминаний) ... С. 830–831.

*але яна застаецца нямая і не рухаецца з месца. Здзіўлены маўчаннем, прапаршчык спытаў: ці яна не разумее рускай мовы? На гэта паненка з пагардай працадзіла: «Я гэтай сабачай мовы не жадаю разумець». «Як вы смееце абражаць мяне, – зычна ўскрыкнуў малады афіцэр, стукнуўшы кулаком па прылаўку, наліваючыся крывёй. – Ды я вас так абражу, што ўсё жыццё памятаць будзеце». Паненка пабляднела і павалілася на крэсла ў істэрычных рыданнях. Але прапаршчык не сцішаўся і гучна заявіў, што ідзе да губернатара асабіста прынесці скаргу. ...Сцэна выйшла ... цяжкая, асабліва, калі бледную, як смерць, паненку выносілі ў поўнай непрытомнасці. Нарэшце ў справу ўмяшаліся афіцэры і з вялікай цяжкасцю ўгаварылі таварыша пакінуць без наступстваў «дурную выхадку», за якую ... жанчына магла б адчувальна паплаціцца».* А вось другі гарадзенскі інцындэнт з афіцэрам у той жа дзень: *«Праз грамадскі сад ён убачыў ідучых супраць яго трох цывільных маладзёнаў, якія спляліся рукамі і занялі ўсю шырыню алеі. Наблізіўшыся да афіцэра, усе ў адзін голас крыкнулі: «Прэч з нашай зямлі». Апынуўшыся тварам да твару з нахабнікамі, афіцэр пасля хвіліннай нерашучасці сышоў у бок … як растлумачыў ён, каб не ўздымаць скандалу, а можа быць, і таму, што сам быў тутэйшы і не хацеў падвяргаць непрыемнасці сваіх...»* Падобныя сцэны ў гэты час апісваюцца ў мемуарах рускіх афіцэраў па ўсім краі[184].

На працягу 1862 г. прастора непасрэднага кантролю ўлады ў Царстве Польскім няўхільна сціскалася, і да сярэдзіны года яно ўжо не кіравалася з адзінага цэнтра

[184] Параўнай, у той жа час у Вільні: «*У сафійскім палку адной з намі 1-й дывізіі быў пераведзены з Каўказа паручнік Вернер, родам прусак ... аднойчы даволі позна ўвечары ... ён прыйшоў да мяне... галава яго была павязана акрываўленай белай хусткай.*

*– Я ўвечар шпацыраваў па садзе... маладыя людзі ... праходзячы міма мяне ... адпускалі ў мой бок абразлівыя насмешкі... Пры браме мяне ўжо чакаў натоўп ... пачуліся абразы ... у мяне кінулі камень ... Тады я выхапіў шаблю ... камусьці з бліжэй стаячых шабля патрапіла па галаве, ён упаў, натоўп расступіўся...»* (Гл.: Межецкий М. П. Воспоминания из беспокойного времени на Литве 1861–1863 годах... С. 830.).

рускай уладай. Да лета 1862 г. быў утвораны падпольны Нацыянальны цэнтральны камітэт, які ў верасні абвясціў сябе сапраўдным польскім урадам. Яму падпарадкоўвалася разгалінаваная арганізацыя ў колькасці прыкладна 20 тысяч чалавек, меўся ўласны адміністрацыйны апарат і падатковая служба[185]. Павялічвалася напружанне і на тэрыторыі былога ВКЛ. Падрыхтоўку паўстання ўзначаліў створаны ў Вільні Літоўскі правінцыйны камітэт. У склад камітэта ўваходзілі капітан генеральнага штаба Людвік Звяждоўскі (1829–1864, псеўданім Тапор), чыгуначны службовец Францішак Далеўскі (1825–25.04.1904 г., нарадзіўся ў фальварку Руднікі Лідскага павета), інжынер Уладзіслаў Малахоўскі (1827–1900, псеўданім Леан Варнэрке), студэнт матэматычнага факультэта Пецярбургскага ўніверсітэта Эдмунд Вярыга (1840?–1902), доктар і мастак Баляслаў Длускі (1826–1905, псеўданім Ябланоўскі) і Кастусь Каліноўскі.

Рускі гісторык XIX ст. Бранцаў П.Д. пісаў пра Каліноўскага: «*...маладады чалавек, 26 гадоў ад роду, сярэдняга росту, дужага целаскладу, меў стромкі, высокі лоб, чысты твар і выразныя вочы; насіў кароткія русыя валасы, зачасаныя назад. Каліноўскі меў вялікі розум і незвычайную сілу волі і характару. Гэта адзіны чалавек з усёй карпарацыі Літоўскага жонду, які быў бескарысліва адданы сваёй справе. Чалавека гэтага нельга было ні спалохаць, ні збіць з толку. Каліноўскі прама ішоў да сваёй мэты, не здрадзіў і не зганьбіў сябе ... баязлівасцю да самай смерці*»[186].

31 ліпеня 1862 г., як і ў мінулым годзе, па ўсім краі прайшло святкаванне ўгодкаў Люблінскай уніі. У Вільні, каля Вострай Брамы, *«сабралася шмат людзей рознага звання»*, сярод іх многія мужчыны былі апранутыя ў нацыянальныя строі, а жанчыны «*ў белых сукенках, канфедэратках ці капялюшыках, упрыгожаных жывымі кветкамі і стужкамі...*» Пасля малітвы частка людзей разышлася па хатах, а частка выправілася да Зялёнага моста, аднак паліцыя ім гэта не

185 *Западные окраины Российской империи. Сборник*. Научные редакторы: М. Долбилов, А. Миллер. ... С. 154.
186 Брянцев П.Д. Польский мятеж 1863 г. ... С. 157.

дазволіла. У той жа дзень у Лідзе «*на звычайнай літургіі, сабралася ... багамольцаў больш, чым звыкла, прычым дамы былі апранутыя ў каляровыя сукенкі*»[187].

10 жніўня 1862 г. віленская паліцыя затрымала адстаўнога службоўца Фелікса Колышку (брата Баляслава Колышкі). З дакладу сакрэтнага аддзела: «*Адстаўны калежскі рэгістратар Фелікс Колышка, у адметным гарнітуры, а менавіта: у чамарцы шэрага сукна, падперазаны шырокім лакавым рамянём з белай металічнай бляхай, на якой намаляваны Арол і Пагоня ... у ботах з доўгімі лакавымі халявамі. Прыператрусе ў Колышкі знойдзены ... заклік да жыхароў Вільні*». Знойдзеная папера заклікала да супольнай малітвы за душы чарговых загінулых маніфестантаў. Са справы вынікае, што Колышка паходзіў з лідскай шляхты, скончыў 5 класаў Віленскай гімназіі, потым служыў у войску, звольнены з войска па асабістым рапарце, пры звальненні атрымаў чын калежскага рэгістратара і першапачаткова прыехаў да сваёй маці ў Ліду, а потым пераехаў у Вільню. Лідскі гараднічы сведчыў, што падчас жыхарства ў Лідзе паводзіў сябе добра, але падчас дэманстрацый у Лідзе разам з іншымі спяваў «абуральныя гімны» і насіў недазволеныя строі[188].

Для нас, беларусаў, вельмі цікавыя культурніцкія акалічнасці тых падзей. Менавіта зацікаўленасць да нашай мовы перад паўстаннем з боку мясцовай інтэлігенцыі прымусіла Назімава напісаць прапанову, якая абмяркоўвалася ў верасні 1862 г. у Радзе Міністраў. У сваёй запісцы ён прапанаваў выдаць маніфест, які б дазволіў кожнай народнасці даць «*сродкі вольна і бесперашкодна развівацца ва ўласцівых ёй формах, характары і межах*», атрымліваць адукацыю на сваёй мове ў мясцовасцях, дзе яна складае большасць насельніцтва. Назімаў спасылаўся на добры прыклад «аўстрыйскай Галіцыі», дзе

187 Архивные материалы Муравьёвского музея, относящиеся к польскому восстанию 1863–1864 гг. в пределах Северо-Западного края. Составил Миловидов А.И. Вильно, 1913. Кн. 4. Ч. 1. С. 122.
188 Там жа. С. 141–144.

праводзілася палітыка падтрымкі этнічнай самабытнасці галіцыйскіх русінаў – групы, што займала адну з нізавых пазіцый у сацыяльнай іерархіі Аўстра-Венгерскай імперыі. Такая палітыка праводзілася Габсбургамі ў піку тамтэйшаму польскаму дваранству (яна ўключала ў сябе і падтрымку духоўнай апоры заходніх украінцаў – уніяцкай царквы, якая, як мы памятаем, у нас была гвалтам ліквідавана яшчэ ў 1839 г.).

Кіруючыся гэтай схемай, віленская адміністрацыя зрабіла крок да прызнання этнічнасці летувісаў, кампактная маса якіх засяляла Ковенскую губерню. Апякун Віленскай навучальнай акругі ў верасні 1861 г. прапанаваў дапусціць у пачатковых школах «навучанне жмудскай грамаце» і пашырыць выданне малітоўнікаў, календароў і іншых кніг для «народнага» чытання на «жмудскай мове» (гэта мова да таго часу ўжо была прызнана ў якасці мовы пропаведзей у касцёле і пры навучанні Закону Божаму). Ці не першым сярод імперскіх адміністратараў Назімаў, хай і асцярожна, падняў пытанне і пра моўную самабытнасць беларусаў, якія афіцыйна лічыліся «рускімі». Назімаў дапускаў беларускасць як прамежкавую прыступку на шляху да выпрацоўкі рускай нацыянальнай самасвядомасці. Яшчэ ў 1859 г. вышэйшае цэнзурнае начальства забараніла друкаванне кніг на «беларускім прыслоўі» «польскімі літарамі», улада баялася польскай асіміляцыі беларускага насельніцтва. А ў 1862 г., у сувязі з абмеркаваннем праблемы польскага панавання ў каталіцкім касцёле, віленская адміністрацыя прапанавала перавесці асноўныя малітвы і кароткі катэхізіс на «беларускае прыслоўе». Па яе меркаванні, гэта павінна было прыпыніць пагрозу паланізацыі насельніцтва, якое руская адміністрацыя больш-менш устойліва называла «беларусы». Увесну 1863 г. па ініцыятыве апекуна Віленскай навучальнай акругі былі выдадзены «Аповяды на беларускім прыслоўі» – кніжка кароткіх павучанняў, закліканых даказаць, што беларусы – не палякі, а рускія. Гэта быў адзіны досвед праўрадавай прапаганды на нашай мове. Такса-

ма пад эгідай Назімава была зроблена спроба заснаваць часопіс для народа на «мясцовым русінскім» прыслоўі (г.зн. на беларускай мове)[189].

***

У студзені 1863 г. у Царстве Польскім з нападаў паўстанцаў на кватэры рускіх войскаў у ноч з 10 на 11 студзеня (з 22 на 23 н. ст.) пачалося масавае і зацятае паўстанне. Да вясны «мяцеж», як называлася паўстанне ўрадам, распаўсюдзіўся на Літву, заходнія і цэнтральныя мясцовасці Беларусі і нават Правабярэжнай Украіны. Часовы нацыянальны ўрад (Rząd Narodowy) абвясціў волю і роўнасць усіх грамадзян аднаўленай дзяржавы, незалежна ад веравызнання і паходжання, а сялянам абяцаў права на зямлю, якую яны апрацоўваюць, з неадкладнай адменай усіх павіннасцей перад панамі. У асобных закліках да русінаў (г.зн. насельніцтва Беларусі і Украіны) ішла гаворка пра поўнае вызваленне і надзяленне зямлёй, а да яўрэяў – пра братэрскую любоў. Такім чынам, была зроблена спроба да згуртавання шырокага фронту сіл. Нягледзячы на недахоп узбраення і недастатковы досвед ваеннай арганізацыі ў баявых дзеяннях, нацыянальны ўрад, не выходзячы з падполля, здолеў узяць пад свой кантроль вялікую частку тэрыторыі, кантраляваць выкананне сваіх распараджэнняў, мець вялікую сетку надзейных агентаў у паштовым ведамстве і на чыгунках. Намеснік Царства Польскага, вялікі князь Канстанцін казаў: «*Законны ўрад існуе толькі там, дзе ёсць войска. Дзе няма, там поўная самаўпраўнасць рэвалюцыі... Цэнтральны камітэт усюды і нідзе*». Паўстанне прыняло аблічча партызанскай вайны, баявой адзінкай выступаў невялікі аддзел (у тэрміналогіі рускага ўрада, «шайка» ці «хеўра»), пераслед і знішчэнне якога ў лясістых і багністых мясцовасцях былі вельмі цяжкай задачай[190].

Імператар Аляксандр II у Пецярбургу асабіста паведаміў гвардыі пра пачатак паўстання. Вось як успамінаў пра гэта афіцэр лейб-гвардзейскага Паўлаўскага палка Воранаў (гэты

[189] Западные окраины Российской империи. Сборник. Научные редакторы: М. Долбилов, А. Миллер. ... С. 168–170.
[190] Там жа. S. 179–180.

полк і асабіста Воранаў потым удзельнічалі ў задушэнні паўстання на Лідчыне):

*«Чуткі пра хваляванні ў Польшчы, якія распаўсюдзіліся напачатку 1863 г., пацвердзіліся пасля 11-га студзеня... Весткі пра тое, што здарылася ў Польшчы, былі перададзены ў Пецярбургу афіцэрам гвардыі асабіста Яго Імператарскай Вялікасцю, пасля таго, як яны атачылі Манарха ў Міхайлаўскім манежы, па заканчэнні разводу л.-гв. Ізмайлаўскага палка.*

*«Шматлікім з Вас, спадарства, – пачаў ... Імператар, – верагодна, не вядомы апошнія здарэнні ў Царстве Польскім. Я жадаю, каб вы даведаліся пра іх ад Мяне Самога.*

*Пасля таго як быў добра праведзены рэкруцкі набор ... у Варшаве з 6-га сталі з'яўляцца мяцежныя хеўры на абодвух берагах Віслы, для рассейвання якіх былі неадкладна пасланы атрады. Нарэшце з 10-га па 11-га па ўсім царстве, за выключэннем Варшавы, былі зроблены раптоўныя напады на войскі нашыя, якія стаяць па кватэрах... Аднак і пасля гэтых новых зладзействаў Я не жадаю абвінаваціць у тым увесь народ Польскі, ва ўсіх гэтых сумных падзеях Я бачу працу рэвалюцыйнай партыі, якая імкнецца паўсюдна да руйнавання законнага парадку. ...Я перакананы, што ... кожны з вас, адчуваючы і разумеючы ўсю святасць прысягі, выканае свой абавязак, як гонар нашага сцяга таго патрабуе...* [191].

## За нашу і вашу свабоду

Лідскі павет быў гатовы да паўстання, яго рыхтаваў Павятовы рэвалюцыйны камітэт у складзе:

– *Канстанцін Геншаль* з Волдацішак – старшыня камітэта, так званы «цывільны начальнік»;

– *Вітольд Гажыч* з Сегенеўшчыны – прадстаўнік Цэнтральнага камітэта ў Варшаве, з траўня павятовы камісар;

– *Тамаш Шукевіч* (павятовы суддзя) – павятовы камісар;

[191] История Лейб-гвардии Павловского полка составлена подпоручиком Вороновым. СПб., 1890. С. 406–407.

– *Ксаверы Александровіч* з Нявішы;
– *Кароль Тышкевіч* з Жырмунаў;
– *Адольф Краінскі* з Палашак;
– *Эдвард Бердаўскі* з Няпрахі;
– *Юзаф Сумарок* з Вярсокі;
– *Уладзімір Паплаўскі* з Ваўчынак;
– *Эдвард Лазоўскі* з Гірак;
– *Стэфан Вільбік* з Ліпкунцаў;
– *Ансельм Патрыкоўскі* з Ліды.

Усю перапіску і допісы павятовага камітэта захоўваў войт Тарноўскай воласці Севярын Якубоўскі. Лідскі камітэт непасрэдна падпарадкоўваўся Віленскаму рэвалюцыйнаму камітэту, які ўзначальваў Мікалай Гедройць (ваявода), а пасля яго арышту – Францішак Канаплянскі. Віленскі ваявода падпарадкоўваўся Рэвалюцыйнаму камітэту Літвы і яго старшыні – Зыгмунту Даленгу-Серакоўскаму[192].

**Канстанцін Геншаль,** сын Людвіка і Стэфаніі з Пуцілоўскіх, пасля заканчэння курса гімназіі ў Вільні вывучаў спачатку медыцыну, а потым матэматыку ў Пецярбургскім універсітэце. Ва ўзросце трохі болей за 20 гадоў стаў старшынёй павятовага паўстанцкага камітэта. Пасля паразы аддзела паўстанцаў Людвіка Нарбута перабраўся спачатку ў Вільню, а потым эміграваў у Парыж, дзе скончыў адукацыю і атрымаў дыплом доктара медыцыны. У 1870 г. браў удзел у французска-прускай вайне. На Лідчыну, у Волдацішкі, у 1920-х гадах вярнуліся яго сыны.

**Гажыч Вітольд,** сын Ежы, маршалка Берасцейскага павета, і Канстанцыі з Якубоўскіх, вучыўся ў Пецярбургу, а пасля паўстання – у Сарбоне (Парыж). У 24 гады вярнуўся на Лідчыну і стаў павятовым камісарам на Лідчыне. Быў арыштаваны і сасланы ў глыб Расіі, дзе і памёр ад тыфу.

Лідскі камітэт вербаваў прыхільнікаў, збіраў грошы, зброю, адзенне, правіянт і іншае, неабходнае для вядзення баявых дзеянняў. Камітэт працаваў вельмі энергічна, і была сабрана дастатковая колькасць грошай, але ўзнікалі прабле-

[192] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 55.

мы з закупам узбраення і рыштунку, і тым не менш зброя таемна паступала з Прусіі.

На пачатку лютага 1863 г. практычна ва ўсіх парафіях ксяндзы з амбона ўрачыста прачыталі маніфест Народнага камітэта пра паўстанне, у цэлым маніфест быў прыняты з запалам.



*Канстанцін Геншаль*

Мірон Браніслаў Нарбут у нявыдадзенай частцы мемуараў пісаў: «*У Забалацкім касцёле ксёндз-пробашч Зарэцкі пасля патрыятычнага казання прачытаў вернікам маніфест. Пасля гэтага зазванілі касцельныя званы і народ заспяваў “Цябе, Божа, хвалім”. Мне распавядалі, што на наступны дзень на пляцы перад касцёлам сабраліся больш за 300 сялян, якія там чакалі тры дні, каб атрымаць зброю, якой, аднак, не было*». Нарэшце некалькі дзясяткаў чалавек самастойна рушылі ў бок Марцінканцаў і 16 лютага пад Нашкунцамі напалі на варту партыі рэкрутаў, якіх сілком адпраўлялі ў глыб Расіі. Канвой быў раззброены, а рэкруты адпушчаны па хатах. Пра вызваленне рэкрутаў дакладваў старшыня Эйшышскага рэкруцкага ўчастка лідскаму земскаму спраўніку[193].

Для пакарання з Вільні быў высланы моцны атрад. Назімаў загадаў начальніку Віленскай жандарскай каманды штабс-капітану Сямёнаву: «*З-за ўзніклых беспарадкаў у некаторых мясцовасцях Лідскага павета прадпісваю ... неадкладна адправіцца з нададзенай у Ваша распараджэнне ваеннай камандай па чыгунцы да Алькенік, адкуль, праз Калеснікі і Салтанішкі, у вёску Забалаць і мястэчка Васілішкі, маеце арыштаваць там плябанаў Забалацкага і Васілішскага касцёлаў і даставіць іх у Вільню, таксама як абшарнікаў Гедройця, які пражывае ў Казіміраўцы,*

[193] Архивные материалы Муравьёвского музея… Вильно, 1913. Кн. 4. Ч. 1. С. 252.

*Шалевіча – у Сабакінцах, іншага Шалевіча – у Хадзілонях і Жураўскага – у Вензаўшчыне, эканома з маёнтка Гедройця – Шчуку, і пражываючага ў яго шынкара Міхала Балевіча, і маляра Фрыдрыха ... зрабіць у іх самы строгіператрус, а гэтак жа зняць сведчанні з яўрэяў-сталяроў, якія знаходзяцца ў маёнтку Казіміраўка, ім вядомы падрабязнасці пра начальнікаў хеўры зламыснікаў, пра месца іх збору... Маеце дзейнічаць па акалічнасцях, затрымоўваючы ўсіх узброеных і падазроных асоб...»*[194]. Штабс-капітан Сямёнаў 21 лютага арыштаваў Казіміра Гедройця з Казіміраўкі, Герарда Жураўскага з Вензаўшчыны, Цыпрыяна Шалевіча з Сабакінцаў, эканома маёнтка Казіміраўка Стэфана Шчуку і Фрэдэрыка Петарсона з Хадзілоняў. Ксяндзоў з Забалаці і Васілішак, а таксама Юзафа Шалевіча і шынкара Міхала Балевіча не арыштавалі, бо яны загадзя схаваліся. Віленская следчая камісія не змагла даказаць віну арыштаваных, а паколькі Мураўёў-вешальнік яшчэ не змяніў губернатара Назімава, усе былі адпушчаны пад строгі нагляд паліцыі.

Падобным жа чынам сітуацыя развівалася і ў Новым Двары: для арышту «падбухторшчыкаў» сюды быў высланы камандзір 42-га Данскога казачага палка падпалкоўнік Епіфанаў. 17 лютага ён арыштаваў ксяндза-пробашча Райцэвіча, ксяндза-вікарыя Каржанеўскага, капітана рэзерву рускага войска Уладзіслава Ваяводскага, жыхароў Дубічан Стэфана і Канстанціна Янкоўскіх, Эдвард Бердаўскага, Францішка Бжазінскага з сынамі Эдвардам і Зыгмунтам, Валентыя Мікульскага з сынам Баляславам, Яна Жавеўскага з Глыбокага, селяніна Аляксандра Арцюшкевіча і каваля Іосіфа Максімовіча, усіх *«за ўдзел у бунце»*. У выніку ваенны суд прысудзіў ксяндза Каржанеўскага і Стэфана Янкоўскага да смяротнага пакарання (прысуд быў заменены на 12 гадоў катаргі), капітана Ваяводскага на 6 месяцаў арышту ў цвердзі Дынабург, Яна Жавеўскага да прымусовай службы на 3 гады ў войску, астатніх, за адсутнасцю доказаў, адпусцілі пад паліцэйскі нагляд[195].

---

194 Там жа. С. 244–245.
195 Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 53–54.

У сваю чаргу, інфармацыйны бюлетэнь паўстанцаў № 4 ад 6.03.1863 г. інфармаваў пра падзеі на Лідчыне: *«У Лідскім павеце ў некалькіх каталіцкіх і ўсходняга абраду парафіях быў зачытаны маніфест і дэкрэты Цэнтральнага Камітэта і Часовага Народнага ўрада. У выніку чаго сяляне самі сабраліся ў лесе каля Забалаці, пачалі самастойна ўзбройвацца і чакаць указанняў. Пасля трох дзён… 11 лютага… высунуліся да Марцінканцаў, дзе 16 лютага адбілі рэкрутаў, якіх везлі па чыгунцы з Кангрэсуўкі*[196]*. Далейшы лёс рэкрутаў пакуль не вядомы. Потым 12, 13, 14 і аж да 24 лютага прайшлі арышты мясцовых жыхароў… Арышты рабіліся ўзброенымі казакамі, якія пры гэтым рабавалі вёскі і двары. Агіднасці салдатаў дайшлі да найвышэйшай кропкі. Да 40 арыштаваных адвезена ў віленскую цытадэль»*[197].

Пра гэтыя падзеі на Лідчыне генерал-губернатар Назімаў пісаў біскупу Красінскаму, забараняючы ксяндзам зачытваць маніфесты рэвалюцыйнага камітэта: «*Дайшлі да мяне звесткі, што ў Лідскім павеце, у мястэчку Васілішкі і ў вёсцы Забалаці, а таксама ў іншых касцёлах гэтай жа мясцовасці тамтэйшыя пробашчы і ... рыма-каталіцкае духавенства ... публічна зачытвае сялянам абуральны маніфест, у якім рэвалюцыйны камітэт аддае ў іх поўную ўласнасць зямлю, якой яны карыстаюцца, і вызваляе сялян ад выканання рэкруцкай і іншых дзяржаўных павіннасцяў.*

*У выніку гэтага была адпраўлена ваенная каманда для спынення зламысных дзеянняў, я лічу абавязкам звярнуцца ... аказаць архіпастырскае Ваша садзеянне да ўстрымання духавенства ... ад дзеянняў нязгодных з паклiканнем духоўнага сану, для ахілення тым самым духавенства ад хуткай адказнасці за беспарадкі, якія ўзніклі ў выніку іх супрацьзаконных учынкаў»*[198].

На Лідчыне стала неспакойна, «*з'явіліся групы*

[196] Царства Польскага.
[197] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 199.
[198] Архивные материалы Муравьёвского музея ... Вильно, 1913. Кн. 4. Ч. 1. С. 246.

*мяцежнікаў»*, і 21 лютага генерал-губернатар загадаў губернскаму паштмайстру адпраўляць пошту праз Мінскі і Лідскі гасцінцы толькі раз на тыдзень пад аховай моцнага канвою[199]. 22 лютага лідскі земскі спраўнік данёс Назімаву пра з'яўленне каля Начы «*хеўры ўзброеных мяцежнікаў*», невядома «*адкуль яны прыбылі і куды ідуць... аднак носяцца чуткі, быццам бы накіроўваюцца ў вялікія лясы, прылеглыя да Троцкага павета*», спраўнік паскардзіўся, што падначаленыя яму тутэйшы прыстаў 5-га стану маўчыць і не робіць аніякіх захадаў супраць паўстанцаў[200]. 6 сакавіка губернскі сакратар прыстаў 5-га стану Сухоцкі[201] быў звольнены за спагаду да паўстання, загадана правесці расследаванне і перадаць яго справу ў ваенны суд[202].

Людвік Нарбут бываў на канспірацыйных сходах у Лідзе[203], весткі пра маніфестацыі ў Варшаве і Вільні ён пракаментаваў коратка: «*Дарэмна трацiцца запал*». Баявы афіцэр чакаў. І вось пры канцы 1862 г. брат Баляслаў прывёз яму ў Сербянішкі адозву Цэнтральнага нацыянальнага камітэта ў Варшаве з заклікам да паўстання. Прачытаўшы адозву, Людвік зняў са сцяны шаблю і пацалаваў. Хутка пасля гэтага ён паехаў у Вільню, дзе сустрэўся з сябрамі рэвалюцыйнага камітэта Літвы, якi рыхтавалі паўстанне ў Беларусі. Камітэт шукаў афіцэраў з досведам і таму не захацеў адразу раскрываць Нарбута, яго баявы вопыт яшчэ спатрэбіцца. Людвік вярнуўся дамоў і пачаў чакаць загаду і патаемна рыхтаваць і арганізоўваць людзей, праводзіць вучэнні пад выглядам паляванняў. 13 лютага 1863 г. да яго прыбыў ганец Віленскага камітэта з загадамі, адным з загадаў

[199] Там жа. С. 253.
[200] Там жа. С. 259–260.
[201] «Пристав 5-го стана, провинциальный секретарь Райнольд Флориан Фаддеев Сухоцкий, становая квартира в м. Эйшишках, в 36 верстах от г. Лиды». Гл: Памятная книжка Виленской губернии на 1862 год. Вильно, 1862. Ч. 1. С. 120.
[202] Архивные материалы Муравьёвского музея ... . Вильно, 1913. Кн. 4. Ч. 1. С. 293–294.
[203] Швед В. В. Вайсковы начальнік Лідскага павета грамадзянін Нарбут // Наш радавод. Кн. 6. Ліда, 1994. С. 84.

Людвік прызначаўся вайсковым начальнікам Лідскага павета. Атрымаў ён і загад пра пачатак паўстання. На кароткай сямейнай радзе бацька, стары Тэадор Нарбут, сказаў, што *«належыць даць сваіх дзяцей на алтар Айчыне, бо яна ў іх мае патрэбу»*.

Нядоўга доўжылася падрыхтоўка да ад'езду, усё ўжо было гатова. Перад ад'ездам сабралася ўся вялікая сям'я Нарбутаў. Людвік быў апрануты ў старую камізэльку, падбітую аўчынай, і ўзброены рэвальверам, на баку вісела старая каўказская шабля. Сястра Тэадора ўручыла яму харугву, вышытую ўласнымі рукамі, а ён перадаў ёй маніфест Камітэта для ксяндза з Начы, каб заўтра прачытаць вернікам. Людвік захоўваў поўны спакой і пасля блаславення бацькамі і развітання з маладой жонкай і сваякамі ў суправаджэнні брата Баляслава і шасці блізкіх паплечнікаў – сяброў маладосці і сялян роднага маёнтка – з'ехаў з хаты. Праз некалькі кіламетраў ад хаты, у Салапаціскім лесе, каля эйшышскага гасцінца, атрад спыніўся – тут было месца збору паўстанцаў.

Назаўтра, 14 лютага, сястра Тэадора прыехала да нацкага пробашча ксяндза Готаўта і перадала яму маніфест. Готаўт у той жа дзень зачытаў маніфест паўстанцаў, а потым нейкую афіцыйную паперу, падпісаную губернатарам Назімавым. Гэта яго і ўратавала, бо ўся парафія потым пад прысягай пацвердзіла, што ён чытаў нейкі ўказ генерал-губернатара і больш нічога[204].

У першы лагер нарбутаўцаў, заложаны за тры вярсты ад Начы, у ноч з 13 на 14 лютага з групай у сем чалавек прыйшоў Леў Краінскі з Грышанішак. Усе разам перайшлі ва ўрочышча Сабалюнцы, хутка сюды ксёндз-вікары эйшышскага касцёла Стэфан Юзаф Гарбачэўскі прывёў з сабой 17 сялян, і такім чынам атрад вырас да 32 байцоў[205]. Да канца лютага атрад павялічыўся да 70 чалавек, і ў Сабалюнцах ксёндз Гарбачэўскі прывёў байцоў да прысягі. Палова атрада складалася з дробнай шляхты Лідскага і Аш-

[204] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 63–65.
[205] Швед В. В. Вайсковы начальнік Лідскага павета… С. 85.

мянскага паветаў, другой паловай былі школьная моладзь, адстаўныя вайскоўцы і сяляне.

Сяляне забяспечвалі атрад харчаваннем і паведамлялі пра перасоўванні рускіх войскаў. За дапамогу Нарбуту пасля паразы паўстання было пакарана ўсё насельніцтва чатырох вёсак: Паддуб'е, Кракшлі, Зубрава і Лініца – знішчаны ўсе пабудовы гэтых вёсак, а сем'і сасланы ў Сібір[206].

Галоўнай зброяй атрада былі паляўнічыя стрэльбы, шмат хто быў узброены толькі косамі. Лепшага ўзбраення таго часу – штуцараў і карабінаў з наразной руляй – было няшмат, у асноўным гэтую палепшаную зброю закуплялі за мяжой ці здабывалі ў баі. Галоўны склад зброі атрад меў у Як'янцах (каля Шаўроў) у лесніка Юзафа Банюшкі, былі склады ў Казіміра Гедройця ў маёнтку Казіміраўка і ў Альфонса Шэлкінга з Забалаці.

Аднастайнага абмундзіравання не было. Большасць амуніцыі ішла ад Віленскага камітэта праз доктара Тэраевіча з Салтанішак, пастаўкамі займалася і сястра Людвіка Тэадора Манчунская (у расейскіх дакументах – Манджунская). Яна разам са сваёй сяброўкай Антанінай Табенскай тры разы ездзіла ў Вільню да агента камітэта Верблеўскага. У яго яна брала порах і свінец, а потым цэлымі вазамі прывозіла ў атрад. Адзін раз Тэадора прывезла нават дзве гарматы. Гэтыя дзве мужныя жанчыны залучылі ў атрад двух расійскіх афіцэраў – падпаручнікаў Нікалаі і Клімантовіча, праз іх прыйшлі да Нарбута і некалькі літоўскіх патрыётаў (Скірмунт і інш.). Рэгулярна прадукты падвозіў стары селянін з Шаўроў – Мацей Някрэтовіч. За ўсе пастаўкі ад сялян Нарбут плаціў гатоўкай[207].

---

206 З успамінаў Мірона Браніслава Нарбута: *«Вясковае насельніцтва Лідскага павета мае глыбокую веру ў Бога і працавітасць… У часы апошняга паўстання 1863 года не толькі сімпатызавалі народнай справе, але нават сяляне скарбовыя ў многіх мясцовасцях станавіліся ў шэрагі, і многія з іх загінулі на полі славы ці былі высланы на пасяленне ў Сібір. Я сам у Арэнбургу сустрэў дастаткова вялікую партыю сялян з парафій Эйшышскай, Нацкай і Радунскай, якіх гналі на пасяленне ў Башкірыю за ўдзел у паўстанні»*.

207 Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 67–68.


Тэадора з Нарбутаў Манчунская (Тося)

Любыя выпадкі недысцыплінаванасці, дэзерцірства і непаслушэнства з самага пачатку камандзір сурова караў. Паказальным стаў выпадак з дэзерцірам шляхціцам Рыло з фальварка Рубікі (з-пад Тарнова). Ён далучыўся да атрада на пачатку паўстання і служыў пры камандзіру як выведнік. Разам з селянінам па прозвішчы Ікасала ён прыйшоў да пробашча дубіцкага касцёла Калікста Ставіцкага і перадаў яму нібы просьбу Нарбута аддаць камандзіру гадзіннік, бо свой ён нібы страціў. Калі ксёндз адмовіўся аддаць гадзіннік, дэзерціры адвялі яго ў пушчу і прывязалі да дрэва, а самі вярнуліся ў плябанію і абрабавалі яе. Якраз у момант рабавання яны былі арыштаваны байцамі атрада. Пасля кароткага ваеннапалявога суда рабаўнікоў высеклі розгамі і пакаралі: яны сабе самі выкапалі магілу і былі жыўцом закапаныя дагары нагамі.

Малады паўстанец Навіцкі (20 гадоў) заснуў на пасту, і суд прысудзіў яго да расстрэлу. Толькі заступніцтва ксяндзакапелана Гарбачэўскага выратавала жыццё маладому байцу, але назаўтра, падчас бітвы пад Руднікамі, Навіцкі гераічна загінуў. Нарбут даводзіў мясцовым жыхарам, што злачынцаў і рабаўнікоў трэба затрымоўваць і перадаваць паўстанцам, а калі паўстанцаў побач няма, дык перадаваць іх нават камандзірам частак рускага войска для пакарання.

Людвік Нарбут не шкадаваў і сябе. Па ўсёй Літве людзі пераказвалі наступную гісторыю: *«Паўстанцы даведаліся, што адзін са зборшчыкаў грошай – здраднік, які ў чаканні, што да яго за грашамі прыедзе сам камандзір, схаваў у сябе 40 казакоў. Ведаючы гэта, паўстанцы атачылі двор*

*здрадніка, і толькі пасля гэтага камандзір разам са сваім ад'ютантам Краінскім прыехаў да яго. Гаспадар радасна сустрэў Нарбута з ад'ютантам і правёў яго ў хату, дзе паўстанцы былі схоплены казакамі. Афіцэр казакоў, дэманструючы сваю павагу да палоннага Нарбута, прапанаваў яму, як баявому афіцэру, застрэліцца, і таму пакінуў палоннага аднаго ў пакоі з рэвальверам. Нарбут зачыніў дзверы і… стрэліў у акно. У двор з усіх бакоў уварваліся паўстанцы і хутка раззброілі казакоў. Тады прыйшоў час Нарбуту выявіць шляхетнасць. Ён адпусціў усіх і нават аддаў казакам здрадніка, якога яны самі правучылі бізунамі»*[208].

Праз тое, што большасць байцоў не мела баявой вывучкі, атрад стаў абозам у Нацкай пушчы (ва ўрочышчы Сеніца), паміж Дубічамі і Грыбашамі, і Нарбут пачаў навучаць сваіх байцоў ваеннай справе.

Падчас знаходжання ў Дубіцкім лагеры Нарбут зрабіў са свайго атрада баявую адзінку: прызначыў афіцэраў і унтэрафіцэраў, даў людзям першасную баявую падрыхтоўку.

Прыкладная структура аддзела:

**Пяхота:**

2-3 звязы стральцоў. Не больш за 250 чалавек;

3-4 звязы касінераў;

1 звяз карабінераў.

**Кавалерыя:**

1-2 звязы. Каля 30 шабель.

**Тыл, штаб і г.д.:**

20 чалавек.

Усяго: Каля 300 чалавек.

**Штаб складаўся з:**

• ад'ютанта камандзіра, які быў адначасова начальнікам штаба, – Леон Краінскі[209] з Грышанішак;

• другога а'ютанта – Баляслаў Нарбут, родны брат Людвіка;

[208] Там жа. S. 69–72.
[209] «Леон Антонович Краинский» Гл: Памятная книжка Виленской губернии на 1862 год. Вильно, 1862. Ч. 1. С. 119.



*Леон Краінскі*

• інтэнданта, так званага ваеннага камісара – Ансельм Патрыкоўскі з Ліды;

• капелана атрада – ксёндз Стэфан Юзаф Гарбачэўскі;

• лекара атрада – доктар Аляксандр Бразоўскі з Гурнофеля;

• майстар па зброі атрада – невядомы паўстанец.

Камандзірамі звязаў былі Баляслаў Францкевіч, Аляксандр Скавінскі, Уладзіслаў Пілецкі, Уладзіслаў Навіцкі, Пётр Янкоўскі, Уладзіслаў Нікалаі і інш. Наогул, афіцэрскі корпус складаўся пераважна з былых афіцэраў рускага войска, але быў і эмігрант, выпускнік школы падхарунжых у Гунеа – Бразоўскі. Непасрэдна падчас баявых дзеянняў, за заслугі, афіцэрамі сталі Міхал Андрыёлі, Баляслаў Нарбут, Пілецкі.

Касінеры, узброеныя косамі, паходзілі ў асноўным з сялян. Каса, выстаўленая паралельна тронку, была звыклай сялянскай халоднай зброяй пры рукапашнай сутычцы, касой рабіліся страшэнныя раны. Падчас бою мастацтва камандзіра складалася ў тым, каб не падставіць касінераў пад агонь агнястрэльнай зброі і ўвесці іх у бой толькі для рукапашнай сутычкі. Па-за боем касінеры неслі вартавую і выведвальную службу, прычым часта іх выкарыстоўвалі парамі са стральцамі: адзін касінер і адзін стралец.

Стральцы атрада паходзілі з шляхты і леснікоў. Зброя – паляўнічыя стрэльбы, на якія мацавалі самаробныя багнеты для рукапашнага бою.

Карабінеры – адборная пяхота паўстанцаў, большасць карабінераў раней служылі ў войску. Узброены былі ненарэзнымі карабінамі і нарэзнымі штуцарамі, зброя для іх адмыслова закуплялася або здабывалася ў баі. З прычыны малой колькасці ўзбраення карабінераў было няшмат.

Кавалерыя – галоўным чынам шляхта на ўласных конях, з уласным рыштункам і зброяй. Узброены кавалерысты паўстанцаў былі па-рознаму, у асноўным – паляўнічымі стрэльбамі, рэвальверамі або старымі пісталетамі, шаблямі.

Байцы абозу, тылу, дапаможны аддзел пры неабходнасці ваявалі як звычайная пяхота. Пра паўстанцаў напісаў сябра Народнага жонду Гілер: *«…ад станка, ад плуга, са школы, з бацькоўскай хаты… кожны з іх ведаў, што калі яго зловяць маскалі, то ён будзе павешаны або высланы ў Сібір. І ледзь апынуўшыся ў лесе, быў змушаны неадкладна ваяваць, не валодаючы зброяй і не ведаючы тактыкі бою»*[210].

У 1863 г. расійскае войска на нашай тэрыторыі складалася з дывізіі лейб-гвардыі генерала Быстрома, якая прыбыла з Пецярбурга ў Вільню, і з 1-га корпуса пяхоты генерала Лабанцава, які складаўся з трох дывізій пяхоты, дывізіі кавалерыі, корпуснай артылерыі і некалькіх палкоў казакоў. Корпус размяшчаўся па ўсім краі, ад Лібавы да Мінска і Смаленска. Агульная колькасць расійскага войска ў гістарычнай Літве была каля 60 000 чалавек, гэтыя войскі былі добра ўзброеныя, абучаныя і мелі рэальны баявы досвед.

У сувязі з выбухам паўстання ў Царстве Польскім генерал-губернатар Назімаў 10 лютага ўвёў ваеннае становішча. Даведаўшыся пра «хеўру», генерал-губернатар Назімаў яшчэ 18 лютага выслаў атрад штаб-капітана Струкава ў складзе роты пяхоты і паўэскадрона ўланаў *«для ачышчэння Лідскага павета ад бунтароў»*. Але Струкаў не знайшоў паўстанцаў. Тады быў высланы лятучы атрад палкоўніка Вімберга ў складзе роты пяхоты і 30 казакоў.

У канцы лютага ад паселішча да паселішча, начуючы ў шляхецкіх фальварках, атрад Нарбута пайшоў у Рудніцкую пушчу, натуральны стан якой рабіў з яе прыродную крэпасць. Недалёка ад Начы за інфармаванне расійскіх улад паўстанцамі быў павешаны нацкі тысячнік Антоні Ка-

[210] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 73–77.

зёл[211]. У 1933 г. у Кавальках быў запісаны аповед селяніна гэтай вёскі Францішка Сянкевіча (84 гады). Ён распавёў, што тысячнік Казёл пісьмова паведамляў уладам пра атрад Нарбута. Калі пра гэта стала вядома, Нарбут дараваў яму жыццё, прыняў ад яго прысягу і далучыў да атрада. Падчас знаходжання атрада ў Салтанішках Казёл знаходзіўся ў пікеце. Калі па дарозе праходзіў жабрак, ён перадаў праз яго цыдулку расійскім уладам з інфармацыяй пра месцазнаходжанне атрада. Жабрака затрымаў на дарозе іншы паўстанец і знайшоў цыдулку. За здраду Казёл быў павешаны каля населенага пункта Высокае[212]. З рапарта начальніка штаба 2-й гвардзейскай пяхотнай дывізіі ад 2 (15) сакавіка 1863 г.: *«Хеўра гэтая, ідучы з вёскі ў вёску, начуючы ў абшарніцкіх фальварках і шляхецкіх ваколіцах, аб'яўляла сялянам розныя пракламацыі рэвалюцыйнай партыі і вербавала саўдзельнікаў...»*[213] А вось як апісваў перасоўванне атрада Нарбута адзін з ягоных інсургентаў: *«Наперадзе атрада хутка рухаліся два маладыя байцы. Карабіны іх гатовыя да бою, канфедэраткі схаваны, яны ўважліва аглядаюць мясцовасць. За імі на адлегласці 300–400 крокаў ідзе авангард атрада, за авангардам – асноўныя сілы. ...паўстанцы па-рознаму апрануты, што надае атраду дзіўны выгляд, вось шляхціц у сіняй вопратцы з накінутым на плечы лісіным футрам, у яго дарагая паляўнічая стрэльба, новы рэвальвер і прадзедаўская шабля на баку. Побач з ім селянін. На ім доўгая, да каленаў белая камізэлька, падперазаныя чорным поясам, блакітная канфедэратка, абабітая чорным футрам, праз плячо на шпагаце замест рэменя старая крамянёвая стрэльба... і побач з імі маленькі худы яўрэй»*[214].

---

[211] Там жа. S. 83–86.
[212] Там жа. S. 204.
[213] Архивные материалы Муравьёвского музея, относящиеся к польскому восстанию 1863–1864 гг. в пределах Северо-Западного края. Составил Миловидов А. И. Вильно, 1913. Кн. 6. Ч. 2. С. 78.
[214] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 207.

### *Бітва пад Рудняй*

У першых днях сакавіка недалёка ад Воранава быў арганізаваны напад на пошту, якая рухалася з Вільні ў Ліду, аднак напад быў няўдалы.

9 сакавіка ў вёсцы Вясенчы расійскія атрады Струкава і Вімберга злучыліся.

Цэлы дзень 8 сакавіка паўстанцы адпачывалі. Досвіткам 9 сакавіка, пасля звыклага ранішняга набажэнства, якое правёў ксёндз Гарбачэўскі, атрад выступіў у паход, а праз дзве гадзіны выйшаў да Віленскага гасцінца. Тут, зусім блізка ад Вільні, было вырашана зрабіць засаду і такім чынам паведаміць пра сябе насельніцтву і ўладам. Нарбут выслаў узвод карабінераў Скавінскага для дэманстрацыі ў напрамку Рудні, каб падняць пярэпалах і прымусіць сцягнуць туды рускія войскі. Мястэчка Рудня знаходзіцца на рацэ Мерачанка, недалёка ад Рудніцкай пушчы, на берагах ракі ў той час ляжалі ствалы дрэў, прызначаныя для сплаву. Нарбут паставіў два ўзводы стральцоў у засаду на лясной высечцы сярод складзеных ствалоў дрэў, а касінераў пакінуў у лесе, як меркавалася, у тыле будучага баявога парадку маскалёў. Рускі атрад рушыў на Нарбута дзвюма калонамі. Першая калона – войскі штаб-капітана Струкава – рухалася праз Папішкі, Калітанцы, Рудню на Гудэлі. Другая калона пад камандаваннем палкоўніка Вімберга спрабавала перакрыць шляхі адыходу на поўнач і атачыць паўстанцаў. У Рудні свайму атраду Вімберг зрабіў адпачынак, і толькі каля 18.00 ізноў рушыў у бок лесу, дзе казакі раптам наткнуліся на ўзвод Скавінскага. Адстрэльваючыся, карабінеры пачалі адыходзіць да паляны, дзе ў засадзе знаходзіліся галоўныя сілы. Калі казакі наблізіліся, Нарбут закамандаваў: «Агонь!» Казакі пачалі адыходзіць, а маладыя байцы, натхнёныя гэтым, кінуліся іх пераследаваць. Тым часам з іншага боку, ад лідскага гасцінца, з’явілася калона Струкава і пачала перакрываць атраду адыход да лесу. Таму Нарбут адвёў свой атрад да лесу, падчас гэтага адступлен-

ня пад ім быў забіты конь. Пачаўся новы бой, перастрэлка перайшла ў рукапашную сутычку. І калі паўстанцы пачалі адыходзіць, у левы фланг рускіх з крыкамі «Езус! Марыя! Юзаф!» ударыў атрад касінераў. Бой разгарэўся з новай сілай. У выніку рускія войскі адышлі да Рудні. Паўстанцы страцілі 4 чалавек забітымі, і пасля іх пахавання з набажэнствам кс. Гарбачэўскага атрад Нарбута адышоў углыб Рудніцкай пушчы. У гэтым баі інсургенты захапілі некалькі штуцэраў[215].

Паводле інфармацыі «Віленскага весніка» № 24 ад 07(21).03.1863 са спасылкай на «Рускага інваліда» № 44, страты рускіх войскаў склалі: 3 салдаты лейб-гвардзейскага маскоўскага палка і 1 казак, былі ўзяты трафеі: 3 фузіі і 3 касы[216].

Начальнік штаба 2-й гвардзейскай пяхотнай дывізіі ў рапарце ад 2 (15) сакавіка 1863 г. пра гэты бой дакладваў: *«У нас паранена падчас перастрэлкі і… пры наступе на лес чатыры чалавекі: трое радавых л.-гв. Маскоўскага палка і адзін казак. З іх адзін радавы… атрымаўшы рану ў жывот, памёр на наступны дзень, іншыя… лечацца. У мяцежнікаў забіта чатыры чалавекі, лік параненых невядомы… На наступны дзень у лесе і каля вёскі захоплена… 10 чалавек. Па сведчаннях захопленых… мяцежнікі падчас сутычкі мелі каля 80 чалавек»*[217].

На наступны дзень Вімберг шукаў паўстанцаў па ўсёй пушчы, але знайсці не змог, былі ўзяты ў палон байцы, якія ішлі на выведку ў бок Вільні. А Нарбут у гэты ж дзень напаў на роту лейб-гвардыі на дарозе да Нацкай пушчы, у сутычцы некалькі гвардзейцаў былі забітыя, паўстанцы захапілі некалькі штуцэраў і хутка адступілі. Менавіта пасля гэтых баёў на вуліцах Вільні з’явіліся атрады рускіх войскаў з гарматамі. У горадзе хадзілі радасныя чуткі пра тое, што Нарбут разбіў маскалёў, у касцёлах служылася «Te Deum»[218].

З Вільні сталі пасылаць роту за ротай для падмацавання

[215] Там жа. S. 87–91.
[216] Там жа. S. 208.
[217] Архивные материалы Муравьёвского музея… С. 78.
[218] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 92.

войскаў на поўначы Лідчыны. На дапамогу Вімбергу з Вільні на вазах прывезлі роту пяхоты лейб-гвардыі, а па чыгунцы ў Алькенікі прыбыла рота Фінляндскага палка пяхоты.

Вімберг са сваімі войскамі вярнуўся ў Вільню шукаць атрад Нарбута, замест яго з Вільні прыбыў палкоўнік Епіфанаў з ротай пяхоты Паўлаўскага гвардзейскага палка і казакамі. Паўстанцы, не ўступаючы ў бой, адступілі ў Дубіцкую пушчу, і рускія войскі не змаглі іх знайсці. У «Віленскім весніку» № 30 ад 7(21).03.1863 г. была абвешчана інфармацыя наступнага зместу: «*Камандзір 42-га Данскога палка палкоўнік Епіфанаў, высланы знішчыць рэшткі банды Нарбута, разбітай палкоўнікам Вімбергам пад Рудняй, прайшоў на працягу 10 дзён у розных напрамках вялікую частку Лідскага і Троцкага паветаў, але нідзе не знайшоў паўстанцаў. Як вынікае з гэтай інфармацыі, банда Нарбута канчаткова рассыпалася, а ён сам і кс. Гарбачэўскі збеглі ў Царства Польскае*».

Тым часам інсургенты даведаліся, што партыя рэкрутаў павінна прайсці праз Шчучын на Гродна, і пакінулі дубіцкі лагер, каб стаць у засаду каля Берштаў. Аднак інфармацыя пра рэкрутаў была памылковая, таму атрад спыніўся ў новым лагеры ў раёне Зубрава – Дубічаны, тут камандзір ізноў заняўся баявой падрыхтоўкай.

*Падзеі ў Гродне*

Увечары 14 сакавіка начальнік чыгуначнай станцыі Гродна капітан рэзерву расійскага войска Лявон Кульчыцкі разам з некалькімі дзясяткамі добраахвотнікаў захапіў гатовы да ад'езду цягнік, каб даехаць да Парэчча і злучыцца з атрадам Нарбута. У Парэччы іх ужо чакаў Баляслаў Нарбут. «Віленскі Веснік» № 25, 09(22).03.1863: *«У суботу… у 10 гадзін вечара, начальнік станцыі чыгункі ў Гродне Кульчіцкі, сабраўшы зламысную банду, спрабаваў выклікаць беспарадкі на станцыі і з'ехаць з горада на падрыхтаваным цягніку… Аднак размешчаная на станцыі рота не дапусціла гэтага. Начальнік станцыі і 8 чалавек здолелі з'ехаць на лакаматы-*

*ве. Кульчыцкі і яго таварышы, не даехаўшы да станцыі Парэчча, кінулі лакаматыў на дарозе і сышлі ў лес. Машыніст і качагар не пагадзіліся іх везці і збеглі»*.

З рапарта флігель-ад'ютанта палкоўніка графа Бобрынскага да камандуючага войскамі бачна, што 15 сакавіка, каля 10 гадзін вечара, патруль, пасланы з гродзенскай станцыі чыгункі ў напрамку моста праз Нёман, паведаміў, што каля дзяжурнага лакаматыва знаходзяцца невядомыя людзі. Незвычайнае ў начны час перасоўванне людзей і паравоза зацікавілі камандзіра роты, і ён, пакінуўшы варту каля тэлеграфа, са сваімі салдатамі рушыў да паравоза. Салдаты былі сустрэты стрэламі інсургентаў (каля 100 чалавек). Машыніст паравоза Вінтар і качагар адчапілі паравоз ад падрыхтаваных для ад'езду вагонаў, таму калі Кульчыцкі сам пусціў паравоз, дык з'ехалі толькі 8 паўстанцаў, якія былі на паравозе. Астатнія былі акружаны расійскімі войскамі, 2 чалавекі ўзяты ў палон, астатнія схаваліся ў горадзе, расейцы *«захапілі 16 ружжаў, косы, шаблі, 1 пуд 30 фунтаў пораху»*. Потым у горадзе былі арыштаваны яшчэ 46 інсургентаў[219].

Аналагічны выпадак адбыўся і з выправай віленскай моладзі: 21 сакавіка 60 паўстанцаў былі атакаваны атрадам (рота пяхоты і сотня казакоў) палкоўніка Алхазава каля вёскі Міцкішкі Троцкага павета. У выніку няроўнага бою 17 паўстанцаў былі забітыя, частка трапіла ў палон і толькі меншая частка на чале з мастаком Міхалам Эльвірам Андрыёлі здолела вырвацца і дайсці да Нарбута[220].

Пра сустрэчу з паўстанцамі Андрыёлі пазней распавёў у лісце да Уладзіслава Міцкевіча, сына знакамітага паэта: «*Сярод бору бліснуў ствол стрэльбы, а пасля мы ўбачылі пешы пікет. Мы яшчэ не дайшлі да яго, як з глыбіні лесу пачуліся воклічы і праз хвіліну адтуль вывалілася купка ўзброенай моладзі. Разнастайнасць адзення, чырвоны колер, старыя світкі, упрыгожаная срэбрам і золатам зброя, дзёрзкія загарэлыя асобы і гучная весялосць так уразіла нас, што ад гэтага жывапіснага відовішча мы доўга не маглі апамя-*

[219] Архивные материалы Муравьёвского музея… С. 80–81.
[220] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 94.

*таццa»*. Лагер знаходзіўся на востраве сярод балот Нацкай пушчы. Прыбыўшых па грэблі правялі ў лагер, дзе іх з'яўленне выклікала агульнае ажыўленне. У невысокім чалавеку ў шэрай вопратцы і белай канфедэратцы на галаве, з шабляй на баку Андрыёлі пазнаў *«некалі майго калегу, а цяпер правадыра Нарбута. Ведаў яго маладым хлопцам, а тут пабачыў пасталелым, дарослым чалавекам... Людзі, адарваныя ад знешняга свету, убачыўшы каго-небудзь, хто адтуль прыбыў, з цікавасцю ловяць навіны. Чалавек, які быў табе абыякавы, цяпер робіцца дарагім. Міжволі марыш аб спакойных часах, а тут вакол лес і царскія салдаты, і ты не ўпэўнены ў тым, ці не будзе раніцай на гэтым месцы ляжаць твой труп. Агонь, які падтрымліваецца вялікімі калодамі, весела трашчыць і гуляе з ветрам. Варушацца галіны дрэў над нашымі галовамі. Пад магутнымі ствaламі хаваюцца дзеці Літвы. Дзівяцца навакольныя дрэвы, бо тут гучна і весела, а з іх верхавін бачныя маскоўскія штыкі, што неўзабаве будуць пратыкаць грудзі адважнай моладзі. Пытанні і адказы сыплюцца як шалёныя.*

*Пад шатамі высокіх дрэў ляжаць у беспарадку дываны і скураныя падушкі, саквояжы, зброя, карты, паперы, алей і гарэлка. Месца начальніка выслана лепш. Ён сам, прыжмурыўшы вочы, сядзіць, абапіраючыся на пень, і прыслухоўваецца да размоў. З іншага боку вогнішча разліваецца чай, і дзяжурны афіцэр з абозным разносяць яго і частуюць сяброў. Так моцна, жыва, шырока – упершыню за многія гады, гучна і свабодна вымаўляем мы: Свабода, Літва, Братэрства. Усё вельмі радуюцца, не відаць сумных асобаў»*.

Узбуджаныя паўстанцы не жадалі спаць. Андрыёлі на гармоніку зайграў нешта вясёлае, ногі пусціліся ў скокі. Нарбут дазволіў танцаваць: «*Ну, хлопцы, хоць да раніцы, бітвы раніцай не будзе*». І Андрыёлі граў, пакуль не стаміліся рукі. Толькі пасля гэтага паўстанцы ляглі спаць[221].

[221] Тарас Анатоль. Восстание 1863–64 гг. на беларуских землях. К 150-летию восстания // Деды. № 11–2012. С. 71.

У палове сакавіка Нарбут выслаў частку свайго атрада ў раён Забалаць – Нача – Волдацішкі для папаўнення добраахвотнікамі. Тут, на загад камандзіра, за здраду быў павешаны пісар з Забалаці. 21 сакавіка ў Сурконтах да атрада далучыліся 10 сялян, а Нявера з Пелясы прывёў 11 добраахвотнікаў у Волдацішкі, маёнтак Геншаля. Стэфан Вільбік[222] як вандруючы музыка, са скрыпкай у руках, абышоў увесь раён Нача – Эйшышки – Радунь, усюды вербаваў байцоў і накіроўваў іх у атрад да Нарбута. Пра з'яўленне інсургентаў 27 (14) сакавіка ў Вільню паведаміў і лідскі ваенны начальнік: *«Па атрыманых мною звестках, у… павеце, у Радунскім прыходзе, які мяжуе з лясамі Гарадзенскага павета, блукаюць групы мяцежнікаў… у ваколіцу Сурканты… мяцежнікі ў значнай колькасці, узброеныя пісталетамі і двухстволкамі, прыйшлі ў суботу 9 сакавіка каля поўдня… увялі 10 чалавек, праходзілі таксама праз Пелясу Барцянскую ў ½ вярсты ад Суркантаў, дзе былы дзясятнік Нявера… угаварыў на мяцеж 10 чалавек казённых сялян, абяцаў прывесці іх у вёску Волдацішкі абшарніка Геншаля, дзе мяцежнікі збіраліся начаваць, (але) быў прагнаны абшарнікам Геншалем.*

*…гонар маю дадаць, што для пераследу… фармаванай… абшарнікам Нарбутам і ксяндзом Гарбачэўскім мяцежнай хеўры, якая павялічылася на даволі значную колькасць людзей, я свае часткі камандзіраваць не рашаюся,*

[222] Пра Стэфана Вільбіка пісаў Мірон Браніслаў Нарбут: *«У вязні ў Вільні ў кляштары Св. Пятра бачыў шляхціца засцянковага з-пад Ліды Стэфана Вільбіка. Ён набіраў добраахвотнікаў у аддзелы Людвіка Нарбута ў Лідскім павеце і дастаўляў жывёлу. Арыштаваны расейцамі з мандатам Урада Народнага, пасаджаны быў у вязню і адданы пад ваенны суд. Захоўваў поўны спакой і моцную волю і нікога не скампраментаваў. У калегі па вязніцы, які яго мне прадставіў, Вільбік пытаўся: "Скажы, Пан, які можа мне быць дэкрэт?" "Могуць павесіць" – той адказаў. Задумаўся трошкі Вільбік, але праз хвіліну спытаў: "А ці я буду ў гісторыі?" – "Абавязкова – гісторыя пераказвае нашчадкам імёны ўсіх, хто заслужыў у Айчыны", – адказаў той. На што Вільбік з усёй энергіяй выказаў: "Хвала Богу – няхай вешаюць!" Потым яго выслалі на цяжкія работы ў Сібір»* – гл. Miron Bronisław Narbutt. Szlachta okoliczna // Ziemia Lidzka. 1997. № 6 (28).

Owóż w zwątpienia strasznej roztercе,
Nim naszą wiarą ocucim znów,
Bluźnią Ci usta, choć płacze serce:
Sądź nas po sercu, nie według słów!

O Panie, Panie! ze zgrozą świata
Okropne dzieje przyniósł nam czas:
Syn zabił ojca, brat zabił brata,
Mnóstwo Kainów jest pośród nas.
Ależ, o Panie! oni nie winni,
Choć naszą przyszłość cofnęli wstecz,
Inni szatani byli tam czynni,
O, rękę karaj, nie ślepy miecz!

Patrz! My w nieszczęściu zawsze jednacy,
Na Twoje łono, do Twoich gwiazd.
Modlitwą płyniem jak senni ptacy,
Co lecą spocząć wśród własnych gniazd.
Osłoń nas, osłoń ojcowską dłonią,
Daj nam widzenie przyszłych Twych łask,
Niech kwiat męczeński uśpi nas wonią,
Niech nas niebiański otoczy blask.

I z archaniołem Twoim na czele
Pójdziemy wszyscy na straszny bój,
I na drgającym szatana ciele
Zatkniemy sztandar zwycięski Twój!
Zbłąkanym braciom otworzym serca,
Winę ich zmyje wolności chrzest,
Wtenczas usłyszy podły bluźnierca
Odpowiedź naszą: “Bóg był i jest».

Беларускі пераклад:
З дымам пажараў
Музыка Юзафа Нікаровіча
Словы Карнеля Уейскага

З дымам пажараў, з кроўю ран братніх
Мы табе, Пане, б'ём наш паклон,
Скаргаю страшнай, енкам астатнім
Ад нашых модлаў сыходзіць стогн.
Мы ўжо без скаргі не знаем спеву,
З церну вянок уразаецца ў скронь,
Вечна як помнік Твайго, Пан, гневу
Цягнем к Табе мы просьбы далонь.

Колькі разоў Ты нас не адсцёбваў,
Мы, не адмыўшыя свежых ран,
Зноўку гукаем: “А Ён жа добры,
Бо Ён наш Бацька, бо Ён наш Пан”.
І зноў да паўстання нас вера будзіць,
Каб Тваёй воляй нас вораг змог
І смеху кінуў камень на грудзі:
“А дзе ж той Бацька, а дзе ж той Бог?”

Гляньма ж у неба, ці там з зеніту
Сто сонц не ўпадзе на злыдняў знак,
Ціха і ціха сярод блакіту
Як колісь грае свабодны птах.
І мы ў сумнення злой паняверцы,
Перш, чым нам веру Ты вернеш зноў,
Блюзнім губамі, хоць плача сэрца:
“Суд чынь па справах, а не са слоў”.

О, Пане, Пане! З прадоння шатаў
Жудасці весткі прынёс нам час:
Сын забіў бацьку, брат забіў брата,
Каінаў мноства ёсць паміж нас.
Толькі ж, о, Пане, віна не іхня,
Хоць нашу прышласць цягнуць заплеч,
Іншыя д'яблы таму прычынай,
Вытні далонню, не рушай меч.

Глянь, мы ў няшчасці заўжды адзіны,
На Тваё лона, да тваіх зор,
Модлы плывуць, як клін жураўліны,
Да родных гнёздаў, сваіх азёр.
Крый жа нас моцны, магутны Пане,
Дай  дачакацца Тваіх нам ласк,
Кветка пакуты вянком хай стане,
Хай нас нябесны асветліць бляск.

Мы з арханёлам тваім на чэле
Пойдзем усе на смяртэльны бой
І на шайтана дрыгуткім целе
Мы ўздымем сцяг пераможны свой.
Змучаным брацццям адчынім сэрцы,
Віны іх змые вольнасці дождж,
Вось тады ўчуе подлы блюзнерца
Водпаведзь нашу: “Бог быў і ёсць”.

(Пераклад Станіслава Судніка)

Паўстанцкая песня[292]

*У ваколіцах Новага Двара, што ў Шчучынскім раёне (колішні Лідскі павет), яшчэ ў 1929 годзе спявалі песню з часоў паўстання 1863 года. Песня амаль што на чыстай беларускай мове.*

Hejze chlopcy dosi spac,
Para kosy prybirac,
Kosy, kosy i siakiery,
Baranici swajej wiery.
Para.

Herod naszy dzietki bje,
A krou naszu jak wuz pje,
Lepiej byci menczanikam,
Niz cesarskim niewalnikam.
Para.

292 Beresewicz A. Historja Szczuczyna (Na podstawie materjalow ks. Romualda Swirkowskiego) // Orli Lot № 8-9, pazdziernik-listopad 1929. S. 173.

Wy za pieczkaju, na polu,
A my u lesie ziemlu holu
Prytulilib jak piarynku,
Choc zasnuci, choc hadzinku.
Para.

Рапарт начальніка Віленскага атрада начальніку 2-й гвардзейскай дывізіі са спісам саўдзельнікаў мяцяжу. 29 красавіка 1863 г., № 15[293]

У выкананне прадпісання вашага правасхадзіцельства маю гонар прадставіць спіс асобаў, якія наклікалі на сябе падазрэнне ў саўдзеле ў мяцяжы.

1) Сястра Нарбута, *с-ня Манджунская* спрыяла набору паўстанцаў, сама бывала даволі часта ў хеўры і рабіла часам з ёю пераходы, дастаўляла мяцежнікам харчы. Усё гэта па сведчанні паўстанца, які знаходзіцца ў генерал-маёра Шамшава.

2) *Вільбік*, шляхціц, жыве ў Ліпкунцах, галоўны вярбоўнік.

У гэтай вёсцы ёсць адзін паранены паўстанец.

3) Абшарнік *Янкоўскі* жыве на фальварку Дубічы каля Новага Двара. Дакладна вядома, што на яго мызе было прыгатавана шмат харчоў для разгавення мяцежнікаў.

4) Абшарнік *Мікульскі* – мыза Глямбок, прымаў і частаваў мяцежнікаў, на яго мызе Нарбут і Гарбачэўскі прыводзілі зноў набраных паўстанцаў да прысягі.

Разам з тым лічу абавязкам далажыць і пра асобаў, якія спрыялі адшукванню мяцежнікаў і сваёй стараннасцю звярнулі на сябе асаблівую ўвагу, а менавіта:

Станавы прыстаў 5 стану Ільін.

Соцкі мястэчка Нача шмат спрыяў да выведвання пра месцы збору мяцежнікаў.

Староста і соцкі вёскі Салтанішкі забіралі палонных і параненых пасля справы 22 красавіка і прыводзілі іх да мяне.

293 Архивные материалы Муравьёвского музея ... Кн. 4. Ч. 1. С. 422–423.

Іосіф Жэгздрын, селянін вёскі Смільчыны, Васілішскага стану. Быў не толькі пры маім атрадзе, але і пры раней пасыланых ад Паўлаўскага палка, у гэты час вярнуўся з атрадам у Вільню з асцярогі быць павешаным мяцежнікамі. Шмат спрыяў пры выведванні і вышуках, захапіў і прывёў вярбоўніка Няверу і параненага *Іосіфа Рачука* ў справе 30 сакавіка.

Антон Талыкоўскі, Каняўскай грамады, дзяржаўны селянін, быў сілком узяты ў паўстанцы, уцёк ад іх і далучыўся да майго атрада. Дастаўляў звесткі, ездзіў па вёсках выведваць і ў дзень справы 22 красавіка з другім мужыком накіраваўся выглядваць след хеўры, след прагледжаны потым штабс-капітанам Рэнвальдтам, па якім атрад і напаў на Нарбута.

Адам Базылевіч, дзяржаўны селянін мястэчка Дубічы. Пры руху маім 21 красавіка на Забалаць прыведзены быў казацкім вахмайстрам Кузняцовым як паказаўшы, што хеўра Нарбута знаходзіцца за возерам Пеляса. З прычыны гэтага апавяшчэння і быў зроблены мною зваротны рух на Дубічы.

Не магу прайсці маўчаннем міма стараннасці жыхароў-габрэяў мястэчка Эйшышкі. У дзень нараджэння Гасудара Імператара 17 красавіка ўсё мястэчка было ілюмінавана, у школах пры поўным асвятленні былі спяваныя гімны ў гонар Яго Вялікасці і Гасударыні Імператрыцы, таксама павінен згадаць пра сына віленскага святара Багдана Брэна, які выказаў жаданне паступіць у вайсковую службу, і ўзятага мною для перакладаў з польскай мовы. Падчас абедзвюх спраў і пры праследзе знаходзіўся ўвесь час пры ротах і часам нават у ланцугу пад агнём мяцежнікаў.

*Начальнік Віленскага атрада лейб-гвардыі*
*Паўлаўскага палка палкоўнік Цімафееў*

### *Спіс маёнткаў, канфіскаваных у Лідскім павеце (1863–1873)*[294]

| Назва маёнтка | Былы ўладар | Дзесяцін |
|---|---|---|
| Вільбікі | Вільбік Стэфан | 23 |
| Ачкевічы | Гжымайла Фелікс | 33 |
| Пакулішкі | Эйсмант Леанард | 76 |
| Мажэйкаўшчына (дзялка) | Тубілевіч Мацей | 1 |
| Жылічы | Рудзіцкі | 46 |
| Казіміраўка | Рудзіцкі | 84 |
| Нявіша | Александровіч Ксаверы | 468 |
| Сасноўшчына | Бердаўскі Адольф | 145 |
| Аленшчына | Дабраўлянскі | 205 |
| Дылева (дзялка) | Цыдзік Міхал | 12 |
| Ліпкунцы | Трушунскі Юзаф | 4 |
| Рытаневічы (дзялка) | Кміта Антоні | 4 |
| Кіюнцы | Ёч Багуслаў | 90 |
| Грышанішкі (дзялка) | Краінскі Леон | 97 |
| Грышанішкі (дзялка) | Трушчынскі | 52 |
| Кракшлі (дзялка) | Бадер Ян | 68 |
| Кракшлі (дзялка) | Бадер Юзаф | 68 |
| Кракшлі (дзялка) | Сярэйчык Ваўжынец | ½ |
| Галадоўка | Ёч Эдмунд | 29 |
| Члоўшчына | Пулоўскі Напалеон | 41 |
| Разам | | 21 маёнтак |

[294] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 178.

*Маёнткі ў Лідскім павеце, якія пасля паўстання 1863 г. былі выкуплены рускімі абшарнікамі на падставе інструкцыі ад 23.VII. 1865 г.*[295]

| Прозвішча пакупніка | Назва маёнтка | Дзесяцін | Кошт, руб. | Дата акта куплі | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|
| Плаксенка Мікалай | Ачковічы | 33 | 522 | 1868 | |
| Трапіцын Міхаіл | Пакулішкі | 76 | 806 | 1868 | |
| Расільян Леў | Ражанка | 505 | 10 173 | 1869 | |
| Трубецкі, князь | Радзевічы | 320 | 5 412 | 1869 | |
| Навагродскі Федар | Багушевшчына | 87 | 1 107 | 1869 | |
| Грыгор’еў Маісей | Даўклеўшчына | 288 | 2 730 | 1870 | |
| Шпэер Апаланінары | Калеснікі | 288 | 2 637 | 1870 | |
| Нікіцін Аляксандр | Тракелі | 3 169 | 25 805 | 1870 | |
| Лівэн Вільгельм, барон | Дворышча | 3 088 | 33 856 | 1870 | |
| Гічэла Міхаіл | Паплавы | 113 | 1 603 | 1870 | |
| Маўрас Дзмітры | Ерамеевічы | 191 | 1 182 | 1870 | |
| Піксанава Надзея | Гілвінішкі | 106 | 2 471 | 1870 | |
| Кісела-Загоранскі Караль | Памедзь | 315 | 2 371 | 1870 | |
| Гера Леапольд | Смілгіні | 361 | 1 069 | 1870 | |
| Асаўкейка Разалія | Паўлока | 264 | 1 206 | 1870 | |
| Пенкіна Алена | Забалаць | 308 | 2 277 | 1871 | |
| Цыпін Мітрафан | Дварчаны | 77 | 607 | 1871 | |
| Ушакоў Пётр | Сакоўшчына | 141 | 1 656 | 1871 | |

[295] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 175.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Анісімаў Аркадзь | Клунцы | 90 | 682 | 1871 | |
| Чэкалкін Сцяпан | Дубінцы | 199 | 846 | 1872 | |
| Лідскае гарадское таварыства | Ліда | 110 | 5 606 | 1873 | |
| Крылоў | Жылічы | 130 | 1 650 | 1873 | |
| Разам | 22 маёнтка | 10 199 | 106 274 | - | Кошт дзесяціны 6 руб. |

### *Спіс маёнткаў, прымусова прададзеных па ўказу ад 10.12.1865 г.*[296]

| Новы ўладар | Былы ўладар | Назва маёнтка | Дзесяцін | Кошт, руб. | Дата куплі |
|---|---|---|---|---|---|
| Маўрас Дзмітры | Кашыц Канстанты | Тарноўшчына | 2 500 | 56 300 | 1866 |
| Шванебах Фёдар | Тышкевіч Караль і Алівія | Жырмуны | 4 000 | 41 000 | 1867 |
| Маўрас Дзмітры | Табенскі Яраслаў | Малкоўцы | 22 | 300 | 1867 |
| Стаховіч Пётр | Пілецкі Юзаф | Лаўчылавічы | 200 | 6 000 | 1867 |
| Васюхноў Іван | Ласковіч Юльян | Малыя Стокі (Чаплеўшчына) | 68 | 2 600 | 1867 |
| Львова Таццяна | Грабоўскі Вільгельм | Семякоўшчына | 880 | - | 1870 |
| Львова Таццяна | Грабоўскі Вільгельм | Рогачоўшчына | 115 | 40 000 | 1870 |
| Станскі Сцяпан | Геншаль Людвік | Волдацішкі | 438 | 10 601 | 1868 |

[296] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 176.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Джанееў Мікалай | Сямашка Ян | Гернікі | 320 | 4 800 | 1868 |
| Шпэер Апалінары | Аранскі Антоні | Лаўсюны | 11 | 90 | 1868 |
| Дэмбавецкі Ал. | Захватовіч Вінцэнт | Бердаўка | 1 576 | 17 501 | 1868 |
| Маўрас Дзмітры | Табенскі Яраслаў | Зенавічы | 487 | 9 055 | 1868 |
| Шпэер Апалінары | Звяровіч Аляксандр | Доцішкі | 451 | 11 100 | 1868 |
| Элсен Юліян | Ржансніцкі Эрнест | Здановічы | 488 | 8 000 | 1868 |
| фон Фейліцар Мік. | Нарбут Баляслаў | Нікадземава | 191 | 3 000 | 1868 |
| Кукаранаў Мікалай | Табенскі Яраслаў | Утольнікі | 330 | 6 220 | 1868 |
| Кукаранаў Мікалай | Дроблячэвіч Ал. Ролукрад Юзаф | Больсі | 9 | 76 | 1868 |
| Міхайлаў Іван | Вайсят Антоні | Цэцянцы | 66 | 317 | 1868 |
| Ушакоў Пётр | Вількапец Тодор | Псярцы | 122 | 1 271 | 1870 |
| Агулам | | 19 маёнткаў | 12 274 | 218 231 Кошт дзесяціны 18 руб. | |

*Спіс маёнткаў, прададзеных у 1864–1873 гг.*[297]

| Від продажу, назва маёнтка | Дзесяцін | Назва маёнтка | Дата куплі | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|
| Вольны продаж | | | | |
| Ельня | 34 | 1 900 | 1 868 | |
| Вялікая Лебяда | 3 0552 | | | |
| Малое Ольжава | 714 | 37 000 | 1870 | |
| Парачкоўшчына | 182 | 4 400 | 1870 | |
| Балкуны | 320 | 6 300 | 1870 | |
| Вярцянёўка | 183 | 4 100 | 1872 | |
| Ельня | 85 | 900 | 1872 | |
| Буячкі | 1 060 | 7 000 | 1873 | |
| З аукцыёна | | | | |
| Папішчы | 40 | 1 474 | 1866 | |
| Міканцы | 46 | 795 | 1867 | |
| Жыжня | 46 | 795 | 1867 | |
| Андрушкі | 221 | 3 150 | 1867 | |
| Нецяч | 1 858 | 11 910 | 1868 | |
| Балічы | 199 | 4 578 | 1869 | |
| Мелегава, альбо Ельня | 868 | 7 444 | 1870 | |
| Лычкава | 760 | 18 010 | 1872 | |
| Вавёрка | 357 | 13 185 | 1873 | |
| Дубічы | 838 | 22 332 | 1873 | |
| Баранаўцы | 350 | 5 506 | 1873 | |
| Агулам, 21 маёнтак | 11 213 | 150 779 | | Кошт дзесяціны 13 руб. |

[297] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 177.

*Да 70-х угодкаў паўстання*

У красавіку 1925 г. прэса паведаміла пра смерць Тэадоры Манчунскай – удзельніцы паўстання 1863 г., дачкі Тэадора Нарбута. У прэсе друкавалася біяграфія сястры Людвіка Нарбута.

**Тэадора Манчунская** – дачка знакамітага гісторыка Тэадора Нарбута, сястра камандзіра лідскіх паўстанцаў Людвіка Нарбута і сама паўстанка 1863 г.

Тэадора (Тося) нарадзілася ў маёнтку Шаўры Лідскага павета 1 красавіка 1830 г. Атрымала выдатную хатнюю адукацыю. У 18 гадоў выйшла замуж за Альберта Манчунскага, але ў 21 год стала ўдавой і вярнулася ў бацькоўскі дом. Займалася грамадскай працай, прымала чынны ўдзел у падрыхтоўцы паўстання.

Калі пачалося паўстанне – апынулася сярод актыўных удзельнікаў (у шэрагах паўстанцаў, акрамя старэйшага брата Людвіка, былі браты Баляслаў і Францішак). Тэадора ўзяла на сябе матэрыяльнае забеспячэнне аддзела, якім кіраваў Людвік Нарбут. Збірала грошы, даставала і прывозіла зброю, вопратку, харчаванне, знаходзіла добраахвотнікаў. Пасля паразы паўстання моцны аддзел казакоў атачыў маёнтак у Шаўрах, каб арыштаваць Тосю, але яна даведалася пра засаду і ў мужчынскай вопратцы ўцякла ў Гародню, а потым далей за мяжу. За мяжой доўгі час жыла ў сям'і графа Пшаздзецкага. Потым пераехала ў Кракаў, дзе апеку над ёй узялі манахіні-феліцыянкі. Напісала кнігу ўспамінаў. Памерла 27 сакавіка 1925 г.

9 жніўня 1928 года газета «Лідскае жыццё» змясціла артыкул наступнага зместу: «*Ушанаванне палеглых у 1863 годзе. Дня 5 жніўня ў Шчытніках Тарноўскай гміны адбылося ўрачыстае асвячэнне магілы палеглых герояў, удзельнікаў баёў 1863 года.*

Крыж і надмагільны камень[298] зафундаваў вайсковы

[298] Той крыж прастаяў да канца 1990-х гадоў, на ім была пазначана дата: 1925 год, і старыя людзі апавядалі пра камяні з надпісамі, якія пры Саветах патапілі ў балоце, і месца паказалі. Такім чынам можна лічыць, што першы крыж на магілах паўстанцаў паміж Малым Ольжавам і Мохавічамі, каля якога былі пастаўлены новыя крыжы ў 1995 годзе, быў пастаўлены ў 1925 годзе, а надмагільны камень, якога няма, – у 1928 годзе. Аўтэнтычны камень 1863 года захаваўся на адной з магіл праз усе часы і ўлады.




*Помнік на магіле паўстанцаў у Дубічах, 2013 г.*

асаднік п. Кілінскі. Яго стараннем пры дапамозе асаднікаў п. Бердаўскага і палкоўніка Ардылоўскага была арганізавана ўрачыстасць.

*Прыгожую і ўзнёслую прамову сказаў ксёндз Гародка, звяртаючыся да баёў 1863–64 гадоў.*

Ва ўрачыстасці брала чынны ўдзел люднасць, мясцовая Белагрудская школа са сваёй харцэрскай дружынай і дзятва з Горнага Шлёнска, якая прыбыла ў Белагруду ў летні лагер»[299].

Зараз тут, каля вёсцы Мохавічы, штогод збіраюцца лідзяне, каб ушанаваць памяць загінуўшых паўстанцаў.

На працягу ўсяго 1933 г. шырока святкаваўся юбілей паўстання 1863 г.

[299] Zycie Nowogrodzkie № 183 (217). 9 sierpnia 1928.



*Крыж на месцы гібелі Людвіка Нарбута каля Дубічаў, 2013 г.*

У той час яшчэ дзейнічала таварыства Ветэранаў паўстання 1863 г., у якім ад гістарычнай Віленшчыны прымалі ўдзел 8 чалавек. Старшынёй таварыства быў Станіслаў Ёдка, які жыў у той час у Вільні (вуліца Серакоўскага, 25).

Станіслаў Ёдка нарадзіўся ў 1847 г. у фальварку Петрашунцы Лідскага павета. У паўстанцкі атрад пайшоў са школьнай лавы разам з сябрамі – вучнямі Лідскага павятовага вучылішча. Паўстанцам быў і ягоны бацька, таму пасля паразы паўстання фальварак Петрашунцы быў канфіскаваны, а бацька сасланы ў Сібір. Акрамя Ёдкі ўдзельнікамі паўстання 1863 г. з Лідчыны былі Мацей Знамяроўскі з Бастуноў[300] і Валерыя Цехановіч з Ліды.

Валерыя Цехановіч (з Цыбульскіх) – удзельніца паўстання 1863 г. Памерла ў Лідзе 23 студзеня 1933 г. ва ўзросце 93 гадоў. Труна з целам паўстанкі была перанесена з дома жалобы (дом яе сына, вул. Лідская, 38) у фарны касцёл 24 студзеня ў 18.00. Жалобнае набажэнства і пахаванне адбылося 25 студзеня ў 10.00[301]. «Навагрудскі Кур'ер» пісаў: *«Вялікая колькасць людзей на пахаванні ветэрана паўстання 1863 г. 25 студзеня ў Лідзе адбылося пахаванне Валерыі Цехановіч (з Цыбульскіх), якая памерла 23 снежня, у гадавіну паўстання. С.п. Цехановіч нарадзілася ў Мінску 1 снежня 1840 г. і ва ўзросце 23 гады ўзяла ўдзел у паўстанні»*[302].

18 лютага 1933 г. у Бастунах адбылося ганаровае ўзнагароджанне паўстанца 1863 г. Мацея Знамяроўскага.

[300] Kurjer Wilenski. № 18 (2559). 22 stycznia 1933.
[301] Kurjer Wilenski. № 19 (2560). 24 stycznia 1933.
[302] Kurier Nowogródzki. № 27 (444). 28 stycznia 1933.


Магіла Валерыі Цехановіч на лідскіх старых могілках

Калі пачалося паўстанне, Знамяроўскі меў 18 гадоў і вучыўся ў Віленскай гімназіі. Адразу ўступіў у атрад Людвіка Нарбута і браў у ім чынны ўдзел. Каб узнагародзіць ветэрана, у Бастуны адмыслова прыехаў стараста Багаткоўскі, маёр 77 п.п. Казлоўскі і старшыня лідскага Звязу Стральцоў Бажок[303].

На пачатку траўня ў Дубічах быў ганарова адкрыты помнік Людвіку Нарбуту. На свяце прысутнічаў навагрудскі ваявода Свідэрскі, віленскі віцэ-ваявода Янкоўскі, генерал Літвіновіч і дэлегацыі ад гмін Лідчыны[304].

Пры канцы траўня прэса паведаміла, што «*старшыня Таварыства Ветэранаў 1863 г., кавалер Крыжа Незалежнасці і Крыжа паўстанцаў 1863 г., былы жыхар Лідскага павета Станіслаў Ёдка памёр у Вільні 20 траўня ва ўзросце 86 гадоў*»[305].

На пачатку жніўня 1933 г. быў адкрыты помнік загінуўшым паўстанцам у Дубічах, прэса шмат пісала пра паўстанне і Людвіка Нарбута[306].

**Валерыя Цехановіч з Цыбульскіх** (1841–1933). Нарадзілася 28 красавіка 1841 г. у Мінску. Была дачкой суддзі. Закончыла мінскую гімназію, з хатнімі настаўнікамі паглыблена вывучала музыку. Перад 1863 г. разам з іншымі мінчанкамі ўдзельнічала ў патрыятычных маніфестацыях. За ігру на аргане і спевы патрыятычнай песні была збіта казакамі.
Выйшла замуж за Гераніма Канстанты Цехановіча (1844–

303 Kurjer Wilenski. №44 (2585). 19 lutego 1933.
304 Kurjer Wilenski. №118 (2659). 7 maja 1933.
305 Kurjer Wilenski. №133 (2674). 22 maja 1933.
306 Słowo. № 213 (3351). 7 sierpnia 1933.; Słowo. № 214 (3352). 8 sierpnia 1933.

1898), які нарадзіўся ў Мураванай Ашмянцы, і мела з ім дзевяцёра дзяцей: Людвіку Марыю, Вацлава Міхала, Люцыяна Пятра, Багуслава, Валяр'яна, Ядвігу, Юзафа, Станіслава, Антона Стэфана.

Перад выбухам паўстання 1863 г. маладыя сужэнцы пераязджаюць у Плоцк, галава сям'і працуе ў скарбовай управе. Геранім і Валерыя Цехановічы прынялі чынны ўдзел у паўстанні 1863 г. Геранім ваяваў у паўстанцкім аддзеле, а Валерыя хавала параненых, збірала прыпасы і падтрымлівала сувязь з паўстанцамі.

У другой палове жыцця Гераніма спаралізавала, і да канца жыцця ён не мог самастойна рухацца. Пасля смерці мужа, каля 1900 г. Валерыя пераехала ў Пултуск, а потым у Насельск, дзе жыла да пачатку 1920-х гг. Потым пераехала да сваёй дачкі Станіславы ў Гародню. Няшчасны выпадак у гарадзенскім касцёле прывёў да калецтва Валерыі, яна перастала хадзіць і да канца жыцця была прыкута да ложка ці інваліднага вазка. Як ветэран паўстання атрымлівала пенсію ў 110 злотых.

Адзін з яе сыноў – Люцыян – быў выкладчыкам Маскоўскага ўніверсітэта, расстраляны ў 1937 г.

З Лідай Валерыю Цехановіч лучаць два апошнія гады жыцця. Сюды яна пераехала да свайго сына Антона, начальніка ўправы скарбовага кантролю. У Антона Цехановіча ў Лідзе, у 1930 г. нарадзіўся адзіны сын – Лех Цехановіч, інжынер-магістр хіміі, аўтар некалькіх кніг і шматлікіх публікацый па прафесіі. Ён таксама з'яўляецца сталым аўтарам сучаснай «Ziemi Lidzkaj», дзе надрукаваў шэраг базавых артыкулаў з гісторыі Лідчыны.

## *Памяць пра Людвіга Нарбута*

Праз семдзесят гадоў адзіным бачным знакам, які паказваў на месца паўстанцкай магілы, быў камень з надпісам «Лявон Краінскі, 1863», які ўсталявала сям'я аднаго з 13 пахаваных.

Праз увесь час няволі мясцовы люд стала клаў кветкі да каменя. У 1933 г. дзякуючы ініцыятыве жаўнераў і афіцэраў 76-га Лідскага палка пяхоты паставілі ў Дубічах помнік памяці Людвіка Нарбута і палеглых паўстанцаў. Сродкі на яго пабудову былі сабраны спецыяльным, для той мэты сабраным Камітэтам Лідчыны, на чале якога стаяў генерал Эд-

вард Рыдз-Сміглы. Праект выканаў прафесар Універсітэта імя Стэфана Баторыя Фердынанд Рушчыц. Камень, які да таго часу сведчыў пра магілу паўстанцаў, умуравалі ў падножжа абеліска. Адкрыццё помніка 6 жніўня 1933 г. было вялікай падзеяй і святам для мясцовага люду. З гэтай нагоды з'явіліся спецыяльныя публікацыі, прысвечаныя Людвіку Нарбуту і студзеньскаму паўстанню, а таксама гісторыі 76-га Лідскага палка пяхоты, якому было нададзена імя геройскага камандзіра (полк дыслакаваўся ў Гродне)[307].

У 1938 г., на 75-я ўгодкі студзеньскага паўстання, жыхары Лідчыны ўшанавалі памяць свайго героя. Было вырашана заказаць памятную дошку і ўмураваць яе ў сцяну касцёла піяраў у Лідзе. Месца размяшчэння дошкі гарантавала трываласць і ахову ад вандалаў, але далейшы лёс дошкі паказаў, якая зменлівая наша гісторыя.

У «Ziemi Lidzkiej» у нумары 5–6 з мая – чэрвеня з'явіўся артыкул Аляксандра Снежкі, названы «Людвік Нарбут – нацыянальны герой». Гэтым тэкстам пачалася падрыхтоўка да адзначэння 75-годдзя студзеньскага паўстання. Аўтар расказаў пра лёс Людвіка Нарбута. У тым самым нумары знаходзіліся і ўспаміны Юлія Грымайлы-Прыбыткі. Яго аўтар, які ў 1863 г. быў малым хлопцам, згадваў, што для яго і ўсёй яго сям'і вялікай падзеяй было наведванне Людвікам Нарбутам іхняга дому. Грымайла-Прыбытка так успамінаў тое спатканне: *«...мы мелі вялікае шчасце бачыць героя, правадыра ўсяго народа...»* З пададзенага фрагмента выразна відаць, якое значэнне мела ў часы паўстання і ў наступныя сем-дзесят пяць гадоў для жыхароў Лідчыны і нават і ўсёй Літвы постаць Людвіка Нарбута. Яшчэ раней Аляксандр Снежка ў першым нумары «Ziemi Lidzkiej» за 1937 г. змясціў артыкул, у якім расказаў пра маёнтак Шаўры – радавое гняздо Нарбутаў. У многіх перадваенных нумарах «Ziemi Lidzkiej» друкаваліся фрагменты запісак Браніслава Нарбута, які апісваў жыццё Ліды і ваколіц трыццатых і саракавых гадоў пазамінулага стагоддзя[308].

307 Там жа. S. 152–155.
308 Наша слова. № 38 (1085). 19 верасня 2012 г.

Справамі фундавання мемарыяльнай дошкі, прысвечанай Людвіку Нарбуту, актыўна цікавілася грамадскасць Ліды. У красавіцкім нумары 1937 г. рэдакцыя змясціла тэкст пад загалоўкам «Толькі з годнасцю, панове». Выданне інфармавала чытачоў, што Ліда і Лідчына рыхтуецца да ўгодкаў выбуху студзеньскага паўстання на наступны год. Кульмінацыйным пунктам мерапрыемстваў будзе адкрыццё памятнай дошкі, прысвечанай Людвіку Нарбуту. Каб надаць урачыстасці вагу і забяспечыць спраўную арганізацыю, быў створаны камітэт мерапрыемстваў. Апроч нагляду за ходам урачыстасці перад камітэтам паўстала складаная задача – збіранне фундушаў на пакрыццё кошту дошкі. Сябры камітэта адразу звярнуліся з гарачым заклікам аб дапамозе. Збор грошай арганізавала рэдакцыя «Ziemi Lidzkiej». Акцыя збірання ішла спраўна. Ужо ў травеньскім нумары 1937 г. быў змешчаны артыкул, які прадстаўляў праект будучай дошкі. Выканаў яго мясцовы скульптар Ежы Кацешчанка. Надпіс змешчаны на дошцы, паведамляў:

«1832–1863.
Вучню былой школы
айцоў піяраў у Лідзе
Людвіку
Нарбуту,
правадыру студзеньскага
паўстання на Літве
ў 75-годдзе
геройскай смерці.
1863–1938.
*З пашанай Лідчына*»

Акрамя іншага, надпіс на дошцы тлумачыў, чаму было вырашана размясціць яе на сцяне касцёла: Людвік Нарбут вучыўся ў той школе, хоць тады яна не належала піярам. У той школе, але яшчэ піярскай, вучыўся бацька Людвіка – Тэадор Нарбут. У гэтым месцы патрэбна тлумачэнне: касцёл, у сцяну якога ўмуравалі дошку, пабудавалі піяры, пераведзеныя ў Ліду Ігнацыем Сцыпіёнам дэль Кампа, падстоліем




*Мемарыяльная дошка прысвечаная Людвіку Нарбуту*

Вялікага Княства Літоўскага. Першы касцёл, драўляны, паўстаў у 1758 г., у 1770 г. ксёндз Аляксандр Вольмар купіў фальварак Пастаўшчына, дзе праз восем гадоў, г. зн. у 1778 г., было распачата будаўніцтва ўласнага касцёла і калегіума. Работы, асабліва па будаўніцтве касцёла, ішлі вельмі павольна. У 1801 г. ксёндз Казімір Нарбут асвяціў кутні камень і фундаменты будынка. Святыня да канца была завершана і асвечана ў імя Св. Юзафа Каласантага ў 1829 г. Піярам касцёл і калегіум доўга не належалі. У 1834 г. зачынілі школу. А пасля 1843 г. царскія ўлады аддалі касцёл і кляштарныя будынкі праваслаўнай царкве. Праз тры гады піяры пакінулі горад. Пасля заняцця Ліды польскім войскам у 1919 г. святыню нанава памянялі на касцёл рымска-каталіцкі і аднавілі даўні калегіум з пачатковай школай, гімназіяй і гандлёвым ліцэем. У верасні 1939 г. касцёл быў зноў адабраны ў піяраў. Камуністычныя ўлады зрабілі ў святыні планетарый. У 1993 г. пачаліся старанні за вяртанне касцёла айцоў піяраў. Аднак улады Беларусі пасля паразумення з папскім нунцыем у Беларусі, біскупам Гарадзенскай дыяцэзіі і генераламі ордэна піяраў вырашылі зноў перадаць яго праваслаўнай царкве[309].

[309] Kałamajska-Saeed Maria. Kosciol p. w. Sw. Jozefa Kalasantego i klasztor Pijarow w Lidzie // Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa wileńskiego. Kraków, 2008. T. 2. Cz. III. S. 143.

Аднак вернемся да тэмы. У артыкуле, дзе расказвалася пра праект дошкі, змешчана ілюстрацыя, з якой і ўзяты далучаны надпіс.

За падрыхтоўкай да ўрачыстасцей адкрыцця дошкі наглядаў спецыяльна з той мэтай створаны камітэт, які ўзначальваў сам Эдвард Рыдз-Сміглы. Постаць маршала надавала дзейнасці камітэта характар агульнадзяржаўны. Акрамя выканаўчага камітэта, каб падняць ранг мерапрыемства, склікаены быў яшчэ і ганаровы камітэт. У склад ганаровага камітэта ўвайшлі: Адам Сакалоўскі – навагрудскі ваявода, ксёндз арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі – Мітрапаліт Віленскі, генерал Альшына-Вільчынскі, М.Б. Гадэцкі – віленскі школьны куратар, Людвік Бацінскі – ваявода віленскі, Мар'ян Янкоўскі – віцэ-ваявода беластоцкі, прафесар доктар Вітольд Станевіч – прарэктар Універсітэта Стэфана Баторыя, ксёндз Геранім Стусінскі – правінцыял піяраў; Юзаф Пшылускі – старшыня апеляцыйнага суда ў Вільні, а таксама Юзаф Ігнацы Парчэўскі – пракурор апеляцыйнага суда ў Вільні.

Кошт выканання дошкі склаў каля 1500 злотых, што на тыя часы было немалой сумай. Аўтар дошкі атрымаў ганарар у памеры 480 зл. Адліўку яе выканаў адмысловец з Вільні Савул Пупко, за сваю працу ён атрымаў 300 зл. Гранітную пліту, да якой была прымацавана адліўка з бронзы, зрабіў камнярэз з Міра – Антоні Грыневіч. Яго аплата склала 350 зл.

У дзень адкрыцця дошкі вуліцы Ліды выглядалі выключна святочна. Галоўнае месца свята – касцёл піяраў – быў ілюмінаваны. Ва ўрачыстасці ўзялі ўдзел ваявода віленскі Адам Сакалоўскі, арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі, генерал Альшына-Вільчынскі, куратар М. Гадлеўскі, правінцыял піяраў Геранім Стусінскі, стараста Станіслаў Гансоўскі, князь Людвік Чацвярцінскі, а таксама Эміль Томас, цесць маршала Рыдз-Сміглага. Дэлегатам ад палка імя Людвіка Нарбута быў палкоўнік Станіслаў Чурыла. Перад касцёлам піяраў адбыўся парад войска і розных арганізацый, якія дзейнічалі на Лідчыне. Прысутных ад імя арганізацыйнага

камітэта прывітаў яго старшыня – суддзя Юльян Грымайла-Прыбытка. Далей вайсковы аркестр сыграў дзяржаўны гімн, пасля якога прамову сказаў прафесар Люцыян Брыльскі – выкладчык польскай мовы ў піярскім калегіуме. У выступе ён нагадаў сабраным асноўныя факты з жыцця Людвіка Нарбута. Адкрыў умураваную ў франтальную сцяну касцёла шыльду генерал Альшына-Вільчынскі. Ад імя палка, які носіць імя героя свята, прамовіў палкоўнік Чурыла. Да ўдзельнікаў мерапрыемства прыйшла віншавальная дэпеша з Варшавы, прыслаў яе сваяк Людвіка Нарбута – Нестар Нарбут. Урад горада Ліды даў на тую высакародную мэту 200 зл., а Красовы саюз земляробаў, аддзел Лідска-Валожынскі ў Лідзе, сабраў і перадаў 125,50 зл. На лісце ахвярадаўцаў аказалася некалькі дзясяткаў прозвішчаў і назваў структур і арганізацый, якія пералічылі грошы. Змешчаны спіс не быў поўны. Рэдакцыя абяцала, што ў наступных нумарах будзе пададзены працяг ліста.

Адкрыццё шыльды было вялікім святам і для лідскіх піяраў. Дзеі падрыхтоўкі да ўрачыстасцей занатаваны ў «Кроніцы калегіума айцоў піяраў у Лідзе». На мерапрыемства ўжо за дзень прыехаў ксёндз-правінцыял Геранім Стусінскі ў кампаніі асістэнта Польскай правінцыі – ксяндза Банавентуры Кадэі, а таксама рэктара калегіума ў Кракаве ксяндза Людвіка Руска. Лідскіх піяраў рэпрэзэнтаваў ксёндз Антоні Чабаноўскі. Падчас урачыстасці ксяндзу правінцыялу і ксяндзу Чабаноўскаму былі ўручаны адзнакі 76-га Лідскага пяхотнага палка імя Людвіка Нарбута, які дыслакаваўся ў Гродне. Як занатавана ў «Кроніцы...», папаўдні ў калегіуме адбыўся раскошны прыём, у якім узялі ўдзел годныя госці, сабраныя на ўрачыстасць адкрыцця шыльды.

Атмасферу тых дзён перадае «Ziemia Lidzka». У майскім нумары «Ziemi Lidzkaj» 1938 г. пададзена справаздача з урачыстасці. Рэдакцыя падкрэслівала выключна ўзняты настрой, які панаваў сярод сабраных, для ўдзелу ў мерапрыемствах на вуліцы Ліды выйшла вельмі шмат жыхароў. У тым жа нумары газеты быў змешчаны спіс ахвярадаўцаў на

шыльду. На першым месцы рэдакцыя памясціла віленскага ваяводу Адама Сакалоўскага. Ён ахвяраваў суму 100 зл. Адвакат Вішнеўскі, напрыклад, даў 30 зл., а нейкі Міхал Слюсарскі – 1 зл.

Пасля верасня 1939 г. новая ўлада пачала знішчаць помнікі, якія сведчылі пра гісторыю краю. Абеліску ў Дубічах удалося перажыць Другую сусветную вайну. Ён ацалеў, хутчэй за ўсё, дзякуючы таму, што гэтая мясцовасць ляжыць па ўзбоччы, далёка ад галоўны дарог. Помнік той стаіць і сёння[310].

18 верасня 1939 г., калі да Ліды набліжаліся бальшавіцкія войскі, ксёндз Чабаноўскі вырашыў дошку затынкаваць. Неўзабаве Саветы зачынілі піярскую гандлёвую школу. Людзі, вывучаныя ў іншым стылі і ў духу іншай улады, не былі патрэбныя. Падчас шматлікіх бамбардзіровак горада ў перыяд 1941–1944 гг. касцёл амаль не пацярпеў, пасля вайны быў адрамантаваны. Але ў 1958 г. улады пастанавілі яго зачыніць і зрабіць у будынку спачатку спартовую залу, а потым планетарый. Разам з касцёлам адабралі і ордэнскі дом. Было дадзена некалькі дзён, каб упакавацца і забраць мэблю. Ксяндзам не далі ніякага памяшкання ўзамен. Дошка хоць і была схаваная, аднак яна існавала ў сэрцах і думках мясцовай супольнасці, і людзі пра яе памяталі ўвесь час. Яна была сімвалам гарачага патрыятызму, і не толькі польскага, але і беларускага.

Каталікі ніколі не перапынялі барацьбы за вяртанне касцёла. Пісаліся шматлікія петыцыі ў Мінск і Маскву. Найчасцей яны заставаліся без адказу. Сітуацыя змянілася з пачаткам перабудовы. У 1989 г. быў зняты тынк з дошкі, адбылося яе другое адкрыццё. У 1990 г. з ініцыятывы Таварыства беларускай мовы пад асноўнай дошкай была памешчана мармуровая дошка з перакладам тэксту на беларускую мову. У снежні 1990 г. аддзел Саюза палякаў у Лідзе разам з вернікамі прасіў улады Беларусі і горада вярнуць святыню. На Грамніцы, 2 лютага 1991 г., лідскія каталікі пасля набажэнства ў фарным касцёле рушылі пад касцёл піяраў. Агулам звыш 200 чала-

[310] Komorowski Paweł, Kołyszko Aleksander. Ludwik Narbutt. S. 18–21.

век, укленчыўшы пад мурамі святыні, накіроўвалі да Бога малітвы аб справядлівасці. У кастрычніку 1993 г. Таварыства польскай культуры на Лідчыне (ТПКЛ) зыніцыявала штотыднёвыя малітвы пры касцёле. У першую нядзелю прыйшло каля 20 чалавек. Але з кожнай наступнай іх колькасць расла. Калі на малітву пачало прыходзіць да ста чалавек, быў накіраваны ліст (9.11.1993 г.) да гарадскіх улад з просьбай аб вяртанні святыні вернікам. Паколькі не было ніякай рэакцыі ўлад на зборы вернікаў, копіі ліста былі высланы апостальскаму нунцыю ў Мінск, біскупу Аляксандру Кашкевічу, а таксама дыякану Станіславу Роеку. Праз колькі дзён пасля ліста старшыня ТПКЛ быў запрошаны ў гарадскі савет, і гарадскі пракурор у прысутнасці намесніка старшыні савета паведаміў, што ТПКЛ праводзіць нелегальныя акцыі, арганізуючы малітвы пры публічным будынку. Хоць для католікаў гэты будынак заўсёды заставаўся святыняй, рацыю ў гэтай краіне заўсёды мела ўлада, і таварыства фармальна адмовілася ад правядзення тых акцый. Але вернікі, як і сябры ТПКЛ, арганізоўвалі малітвы ажно да перадачы касцёла праваслаўным. Улада фармальна не заўважала лістоў, так жа, як і лістоў-водгукаў на заклік таварыства, надрукаваных у многіх польскіх газетах (у т. л. у «Ladzie», «Tygodniku Powszechnym», «Slowie – Dzienniku Katolickim», «Mysli Polskiej»).

Адначасова перадачы будынка пад царкву дамагаліся праваслаўныя вернікі. Пасля згоды каталіцкага духавенства ў знак паяднання гарадскія ўлады рашэннем ад 7.03.1996 г. перадалі будынак праваслаўнай парафіі. Пасля перадачы касцёла адразу была знята беларуская дошка (была замацаваная на шрубах). Прадбачачы пагрозу для польскай дошкі, ТПКЛ зыніцыявала шэраг дзеянняў. Супольна з беларускімі арганізацыямі і аддзелам Саюза палякаў на Беларусі (разам 7 няўрадавых арганізацый) накіравалі лісты да гарадскіх улад, у Міністэрствы культуры і адукацыі Рэспублікі Беларусь, праінфармавалі старшыню Таварыства аховы помнікаў у Гародні Зміцера Аляшкевіча. Па-

водле яго слоў, ён таксама звяртаўся да гарадскіх улад і быў запэўнены, што дошка не будзе парушана і застанецца на месцы. 7 траўня 1996 г. у гарсавеце абылося спатканне з прадстаўніком Міністэрства культуры, які прыбыў у горад па той справе. У спатканні ўзялі ўдзел прадстаўнікі грамадскіх арганізацый (падпісанты лістоў) кіраўнік гарадскога аддзела культуры, настаяцель праваслаўнай парафіі. Адназначна было сцверджана, што гэты будынак з'яўляецца помнікам культуры і знаходзіцца пад аховай дзяржавы, і бацюшку абавязалі падпісаць ахоўны дакумент (аднак ён гэтага не зрабіў, а перадача будынка без гэтага дакумента не мае праўнай моцы). Прысутныя на сходзе былі запэўнены, што з дошкай нічога не станецца. Звыш таго, вяліся размовы пра паўторнае замацаванне беларускага тэксту таблiцы. Аднак 17 чэрвеня 1996 г. каля 17.30 сябар ТПКЛ Мечыслаў Хвайніцкі заўважыў, што салдаты выбіваюць дошку з муру. Адразу пад будынак з'явіліся некалькі іншых сяброў ТПКЛ (Аляксандр і Андрэй Сямёнавы, Ганна і Тадэвуш Комінчы, Ліля Тумялевіч, Мечыслаў Хвайніцкі, Часлаў Колышка – старэйшы), якія засведчылі, што выбіты дзве дзіркі ўздоўж дошкі. Салдатаў ужо не было. Гэтыя людзі былі каля касцёла да 21-й гадзіны. У гэты ж час старшыня ТПКЛ А. Колышка спрабаваў скантактавацца з прадстаўнікамі ўлад. Аднак час працы ўжо скончыўся. Вечарам дамовіліся са старшынёй гарадской рады Беларускага народнага фронту Станіславам Суднікам, што раніцай наступнага дня разам пойдуць да гарадскіх улад. Назаўтра а 9-й гадзіне былі пры касцёле – дошкі ўжо не было. Гаварылі, што была вырвана недзе каля 6-й раніцы. Нейкі час захоўвалася пры ўваходзе ў царкву, пазней была перанесена ў гарадскі краязнаўчы музей, дзе ляжала каля музейнага хлевушка, пакуль на яе збольшага не забыліся.

Візіт да гарадскіх улад быў бессэнсоўны. У гэтай сітуацыі былі напісаны заявы пракурору аб узбуджэнні крымінальнай справы, былі паінфармаваны Міністэрства культуры, а так-

сама Таварыства аховы помнікаў у Гародні. Адказ з аддзела ўнутраных спраў быў цікавы:

*«Старшыні Лідскай рады БНФ*
*Судніку С. В., г. Ліда*
*В. А. Лідскага міжрайпракурора,*
*Дарадцу юстыцыі Скакуну В. В., г. Ліда*

Паведамляем, што па Вашай заяве праведзена праверка. Мемарыяльная дошка як помнік удзельніку паўстання Л. Нарбуту ўтрымоўвае дзяржаўную сімволіку "Белы арол з каронай і Пагоня", у непашкоджаным выглядзе вернікамі знята са сцяны храма. Пра зняцце дошкі даведзена да ведама Лідскаму гарвыканкаму, які павінен прыняць рашэнне аб пераносе яе ў дазволенае законам месца.

Гэтая дошка была ўстаноўлена на Саборы ў 1938 г. і да пабудаванага ў 1863 г. праваслаўнага храма не мае дачынення. Згодна з арт. 7 Канстытуцыі РБ у месцах набажэнстваў не дапускаецца выкарыстанне дзяржаўнай сімволікі, правядзенне сходаў і інш.

Згодна з рашэннем Лідскага гарвыканкама № 38 ад 07.03.96 г. будынак перададзены ў безаплатнае карыстанне праваслаўнай рэлігійнай грамадзе Свята-Міхайлаўскай царквы.

Начальнік аддзела – В. Г. Макаранка»[311].

У адказе на наступную заяву старшыні ТПКЛ пракурор паведаміў, што ён цалкам згаджаецца са зместам адказу аддзела ўнутраных спраў. Справа была скандальная, уся незалежная прэса пісала пра гэта. Гарадзенская рэгіянальная газета «Пагоня» пракаментавала здарэнне наступным чынам: «Людвіка Нарбута спрабуюць забіць у другі раз». У Лідзе з'явіліся ўлёткі на беларускай мове, надрукаваныя на звычайнай друкарскай машынцы: *«Шаноўныя жыхары. У Лідзе ўчынены чарговы акт вандалізму і бясправўя супраць нашай гісторыі, гонару і годнасці беларусаў і палякаў, усіх патрыётаў Лідчыны. Поп Аляксандр і тыя, хто сарваў з будынка планетарыя дзве памятныя дошкі ў гонар героя паўстання 1863 г., змагара за незалежнасць*

311 Там жа. S. 27–31.

*Беларусі, паплечніка Кастуся Каліноўскага, кіраўніка паўстання на Лідчыне Людвіка Нарбута, абразілі нашыя нацыянальныя і патрыятычныя пачуцці. Шаноўныя лідзяне, праваслаўныя і каталікі, заклікаем вас пратэставаць усімі мажлівымі спосабамі супраць злачынства, учыненага ворагамі беларускасці, супраць бяспраўя і беспакаранасці злачынцаў гарадскімі ўладамі. Не слухайце тых, хто заклікае да маўчання. Ідзіце ў выканаўчы камітэт, пішыце ў газеты, звяртайцеся да пракурора, пачынайце судовыя справы. Сёння яны топчуць нашую гісторыю, заўтра будуць таптаць нас».*

Узнікла некалькі ініцыятыў упарадкавання справы з нарбутаўскай дошкай. Улады разумелі, што трэба нешта рабіць. Падчас будаўніцтва Дома польскага ў Лідзе была высунута прапанова, каб памясціць дошку на сцяне гэтага будынка. Аднак што агульнага мае новы будынак Дома польскага на вул. Кірава з той дошкай? Акрамя таго, супраць такой прапановы выступілі ўсе беларускія арганізацыі, якія супрацоўнічалі з Таварыствам польскай культуры, але не надта давяралі Саюзу палякаў, магчыма беспадстаўна, і баяліся, што калі дошка трапіць у іхнія рукі, то можа быць вывезена ў Польшчу. У сакавіку 1997 г. у лістах да старшыні Лідскага гарвыканкама У.М. Мальца Таварыства польскай культуры і Лідская гарадская арганізацыя БНФ «Адраджэнне» ўзгоднена звярнуліся з прапановамі паставіць каля касцёла піяраў помнік з размяшчэннем на ім дошкі Людвіка Нарбута, а таксама дошак: а) Валерыю Урублеўскаму і сям'і Далеўскіх – удзельнікам паўстання 1863 г. на Лідчыне; б) сям'і Нарбутаў – Казіміру Нарбуту, аўтару першага падручніка логікі на польскай мове, які нарадзіўся на Лідчыне і які ў 1801 г. пасвяціў фундаменты касцёла айцоў піяраў, а таксама Тэадару Нарбуту, аўтару знакамітай гісторыі старажытнай Літвы; в) ксяндзам піярам – таму ж Казіміру Нарбуту і Станіславу Баніфацыю Юндзілу, вучню піярскай школы ў Лідзе, батаніку, арганізатару першых батанічных садоў у Шчучыне і Вільні, аўтару першага падручніка па батаніцы ВКЛ. Не атрымалі на тыя прапановы ніякага адказу.

Тым часам гісторыя з дошкай пачала патроху забы-

вацца. У адзін з летніх вечароў да будынка музея падышла грузавая машына, дошка была загружана ў кузаў і вывезена. Ніхто яе не спахапіўся. Можна было думаць, што дошку ўкралі. На самай справе па ўзгадненні паміж Таварыствам польскай культуры і Лідскай гарадской арганізацыяй БНФ «Адраджэнне» і з вуснага дазволу супрацоўнікаў музея дошка была вывезена ў раён аднаго з касцёлаў, дзе была пакладзена да лепшых часоў. Лепшыя часы пачалі наступаць, калі ў Лідзе на месца перададзенага праваслаўным касцёла піяраў на імя Юзафа Каласантага па вуліцы Савецкай пачалося і было завершана будаўніцтва касцёла піяраў на імя таго ж Юзафа Каласантага ў мікрараёне Індустрыяльны. У 2011 г. Таварыства польскай культуры на Лідчыне, Лідская гарадская арганізацыя ТБМ імя Ф. Скарыны і Лідская раённая арганізацыяй ГА БНФ «Адраджэнне» прынялі ўзгодненае рашэнне аб устаноўцы дошкі пры гэтым касцёле як спадкаемцы былога касцёла піяраў[312].

21 красавіка 2013 г. у лідскім мікрараёне Індустрыяльны была адкрыта і асвечана адноўленая мемарыяльная дошка памяці Людвіка Нарбута – вайсковага начальніка Лідскага павета падчас паўстання 1863 года, паўстаніцкага палкоўніка, прызначанага за некалькі дзён да смерці галоўнакамандуючым войскаў ВКЛ.

Дошку адкрывалі біскуп Аляксандр Кашкевіч, генеральны консул Польшчы ў Гародні Анджэй Хадкевіч, лідскі дэкан Вінцэнт Лісоўскі, пробашч фарнага касцёла айцец Уладзімір Гуляй, пробашч касцёла Святога Юзафа Каласантага айцец Ян Асіповіч. Менавіта каля новазбудаванага касцёла ордэна піяраў на імя святога Юзафа Каласантага ў форме адмысловай капліцы (праект Рычарда Грушы) і была ўстаноўлена мемарыяльная дошка з 1938 г.

Многія з тых, хто змагаўся за вяртанне дошкі, не дажылі да гэтага дня, таму яна стала помнікам не толькі Людвіку Нарбуту, але і ўсім лідзянам-патрыётам Бацькаўшчыны і горада[313].

---

312 Суднік Станіслаў. Людвік Нарбут // Наша слова. № 40 (1087). 3 кастрычніка 2012 г.

313 Грынкевіч Яраслаў. Адноўлена мемарыяльная дошка памяці Людвіка Нарбута ў Лідзе // Наша Слова. № 17 (1116). 24 красавіка 2013 г.

# Змест

Навукова-папулярнае выданне

Лаўрэш Леанід

# Паўстанчы дух

*1812, 1831, 1863 гады на Лідчыне*

Вёрстка *А.А. Рыжы*

Падпісана да друку 20.06.2016 г. Фармат 60х84/16.
Папера афсетная. Рызаграфія
Ум.друк.арк. 14,1. Ул.-выд.арк 8,2.
Тыраж 90 экз. Замова 28-06/16

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
Таварыства з абмежаванай адказнасцю «ЮрСаПрынт».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/388 ад 01.07.2014 г.
Вул. Карла Маркса,11, 230015, г. Гродна.
+375 152 77 18 20
+375 295 87 84 11